

*1 верасьня 1993 году паэту Масею Сяднёву споўнілася*

***80 год.***

*Рэдакцыя часопіса «Полацак» шчыра вітае юбіляра з днём народзінаў і зычыць яму доўгага творчага жыцьця і плённай працы на карысьць Бацькаўшчыны*

# Polatsak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy, BAOC
Cleveland, Ohio, USA.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

На першай бачынцы вокладкі **Алесь Мемус**. Успамін
На развароце. **Леанід Шчамялёў**. Восень

# Аб вонкавай палітыцы Полацкага княства ў X—XIIIстст.

Юры Штыхаў

Геапалітычнае становішча беларускіх зямель спрадвеку мела свае асаблівасьці. Гэта назіраецца з часоў існаваньня самой старажытнай дзяржавы на тэрыторыі Беларусі, якім было Полацкае княства («зямля»). Полацак разьмяшчаўся паміж двума буйнешымі раньнесярэднявечнымі гарадамі Ноўгарадам і Кіевам, зь якімі на працягу многіх стагодзьдзяў вёў упартую барацьбу за гандлёвыя шляхі і самастойнасьць.

Будучы значнай дзяржавай, роўнай па памерах сярэднявечным каралеўствам Заходняй Эўропы, Полацкая зямля мела ўсе падставы, каб стаць «зьбіральнікам» тых тэрыторыяў, на якіх у далейшым адбывалася фармаваньне беларускага народу-этнасу.

У XI стагодзьдзі полацкія князі пасьпяхова імкнуліся рэалізаваць свой кансалідуючы патэнцыял. Пры князі Брачыславу Полацкае княства пашырылася. А пры Ўсяславу дасягнула найбольшай магутнасьці.

Адной з задач у палітыцы Кіева было падпарадкаваньне Полацкага княства сваёй уладзе, дамагчыся таго, каб полацкія князі былі васаламі князёў кіеўскіх. Закранём пытаньне пра ўзаемадачыненьні Полацка, Русі й яе суседзяў—качэўнікаў у стэпах. З летапісных зьвестак дакладна вынікае, што пачынаючы з X ст. назва Русь замацавалася за часткай сярэдняга Падняпроўя з гарадамі Кіеў, Пераяслаўль, Чарнігаў. Першапачаткова толькі дадзеная тэрыторыя называлася «Рускай зямлёй». Фактычна так было і ў XII ст. Сур'ёзнай небясьпекай для Русі былі ў прычарнаморскіх стэпах качэўнікі. У X ст. гэта былі печанегі, затым іх мейсца занялі торкі,у другой палове XI ст. зьявіліся полаўцы (кыпчакі), цюркамоўныя плямёны.

Полацкі князь Усяслаў у 1060 годзе разам з князем Русі ўдзельнічаў у пасьпяховым паходзе супраць качэўнікаў торкаў.

Праз некалькі год пачалася барацьба Ўсяслава з паўднёварускімі князямі, кульмінацыйным пунктам якой была Нямігская бітва ў1067 г.

Падзеі адбываліся з калейдаскапічнай хуткасьцю. Цюркамоўныя полаўцы нанесьлі шэраг паражэньняў кіеўскім князям у 1068, 1092, 1093, 1096 гг. [1] Шмат давялося ваяваць Уладзіміру Манамаху з гэтымі качэўнікамі. Адначасова ён варожа ставіўся да полацкіх і менскіх князёў. Манамах сам расказвае ў сваім «Павучэньні» дзецям, што ў 1084 г. ён *«идохом с черниговци и с половци с четеевичи у Меньску, изѣхахом* (захапіў зьнянацку і разграміў) *горад и не оставихом у него ни челядина, ни скотины»*. Чэціевічы, якія ўдзельнічалі ў паходзе на Менск, сярод палавецкіх плямён вызначаліся асаблівай жорсткасьцю. Па якой прычыне Манамах разрабаваў Менск ён не тлумачыць.

На пачатку XII ст. рускія князі, і сярод іх Манамах, арганізавалі сумесныя паходы супраць полаўцаў. У 1103, 1106, 1107, 1111, 1116 гг. яны нанесьлі вялікае паражэньне качэўнікам і адкінулі іх за Дон.[2] Дарэчы ў 1103 г. у паходзе на полаўцаў прыняў

удзел Давыд, сын Усяслава Полацкага.

У другой палове XII ст. полаўцы ўзнавілі свае набегі на паўднёвую Русь. У выніку паходаў рускіх князёў у 80-я гады полаўцы ў другі раз былі адкінуты за Дон.

Узаемаадносіны паўднёвай Русі і качэўнікаў ня зводзіліся толькі да вайны. Былі пэрыяды мірнага суіснаваньня, гандлёвага абмену, дынастычных сувязьзяў заключэньня саюзаў.

У 1127 г. сын Манамаха князь кіеўскі Мсьціслаў арганізаваў вялікі паход на крывічоў у Полацкую зямлю. Шматлікія дружыны падпарадкаваных Мсьціславу князёў уварваліся ў Полацкую зямлю і спусташылі яе.

Але полацкія князі не намераны былі падпарадкоўвацца Кіеву. Яны зноў адмовіліся ўдзельнічаць у паходзе супраць палавецкага хана Банака. В.Н. Тацішча ў прыводзіць такі варыянт адказа крывіцкіх князёў Усяславічаў кіеўскаму князю Мсьціславу: *«Ты з Бонаком Шолудяком здравстуйте оба, а мы имеем дома что делать»*. У пакараньне за непадпарадкаваньне Мсьціславу, ён захапіў у палон пяцярых полацкіх князёў і выслаў іх у Бізантыю. Праз некалькі год яны вярнуліся на радзіму. Гэта была апошняя спорба кіеўскіх князёў падпарадкаваць сабе Полацак.

У другі пэрыяд гісторыі полаўцаў барацьба Русі зь імі адыйшла на другі план. Асобныя паўднёварускія князі, асабліва прадстаўнікі чарнігаўскіх, Вольгавічаў, думалі больш пра тое, як выкарыстаць полаўцаў у барацьбе за Кіеў, чым аб тым, як ваяваць супроць іх. Качэўнікі запрашаліся для ўдзелу ў ваенных дзеяньнях як саюзьнікі.

Летапісы шмат разоў прыгадваюць сумесныя паходы рускіх і качэўнікаў у XII ст. на поўнач і захад. У грандыёзным паходзе Мсьціслава на Полацкую зямлю ў 1127 г. удзельнічылі торкі. Пад Менскам зноў былі торкі ў 1160 г.[3] У 1180 г. каля Друцка полаўцы дапамаглі князям Яраславу й Ігару Сьвятаславічу, будучаму герою «Слова аб палку Ігаравым», якія нападалі на гэты горад.[4]

Такім чынам, полацкія князі і полацкае веча, якія кіравалі ў Полацкай зямлі, не хацелі ўмешвацца ў складаныя і непрадбачаныя дачыненьні паміж рускімі князямі і полаўцамі, імкнуліся заняць нейтральную пазыцыю, каб больш удзяляць ўвагі сваім праблемам. Полацкая зямля практычна заставалася незалежнай дзяржавай на працягу ўсяго XII ст.

Пазьней сытуацыя ўскладнілася. У канцы XII ст. на паўночна-заходніх межах Полацкага княства зьявіліся нямецкія «пілігрымы».

Галоўным палітычным пралікам полацкага князя Ўладзіміра (1186—1216 гг.) быў дадзены дазвол на іх зьяўленьне на чале зь місіянерам Мейнардам у вусьці Дзьвіны. Не задавальняючыся непасрэднымі гандлёвымі сувязямі з Полацкім княствам, на што, відавочна, разьлічваў Уладзімір, нямецкія «пілігрымы» абвясьцілі манаполію на гандаль у ніжнім Падзьвіньні, а затым пазбавілі палачан традыцыйнай ліўскай даніны. Арганізаваныя полацкім князем паходы ў 1203 і 1206 гг. з мэтай аднавіць статус кво ня мелі посьпеху. Не ў стане вярнуць страчаныя землі, Уладзімір мусіў прыняць умовы палітычнай гульні, распрацаваныя крыжакамі, што пацягнула за сабой шэраг новых дыпляматычных пралікаў.

Між тым крыжакі, скарыстоўваючы надуманую літоўскую пагрозу, дабіліся прызнаньня васальнай залежнасьці з боку Вячкі— князя заснаванага палачанамі на латгальскіх землях горада Кукенойса, што дазволіла рыцарам ў 1208 г. канчаткова

захапіць гэты горад.

Намецілася відавочная тэндэнцыя ў імкненьні Рыгі выступаць ад імя Полацка ў якасьці «абаронцы» Полацка. У 1209 г. крыжакамі быў захоплены горад Герцыке, таксама заснаваны палачанамі. Князь Герцыке Ўсевалод абвінавачваўся ў дапамозе літоўцам падчас іх наездаў на полацкія землі. Усевалад мусіў прызнаць сябе васалам Рыгі. «Дружалюбнае» стаўленьне крыжакоў да полацкага князя павінна было пацьвердзіць прызнаньне рыскім біскупам Альбертам правоў Полацка на ліўскую даніну, якую ён у 1210 г. абавязваўся выплочваць палачанам ад імя ліваў. У Рыгу накіроўваўся пасол Полацка і Смаленска з мэтай перамоваў аб свабодным гандлі на Дзьвіне.

Аднак ужо ў 1212 г. выявілася нежыцьцяздольнасьць дамоўленасьці аб выплаце Полацку ліўскай даніны. Вымушаныя плаціць даныя падаткі, лівы зьвярнуліся да рыскага біскупа з заклікам спыніць выплату даніны полацкаму князю, што і было зроблена. Пагрозы Ўладзіміра ў бок біскупа Альберта вынікаў ня мелі. Паводля заключанага ў гэтым годзе новага дагавору, Полацак адмаўляўся ад усялякіх прэтэнзіяў на Лівонію, затое, адбова бакі дэкляравалі свабодныя гандлёва-эканамічныя сувязі і сумесную барацьбу супроць літоўцаў і ішных язычніцкіх плямён, што фактычна азначала ваенны саюз.

Немэтазгоднасьць такога саюза была відавочнай. Са стратай прыбалтыйскіх уладаньняў Полацкам зьнiклі і супярэчнасьці паміж палачанамі ды літоўцамі. Не прынесьлі полацкаму князю выгад і эканамічныя дамоўленасьці з Рыгай, таму ўжо у 1216 г., рыхтуецца сумеснае выступленьне палачан, літоўцаў і эстаў супраць Ордэна мечаносцаў, якое не адбылося з-за раптоўнай сьмерці Уладзіміра. З гэтага часу назіраецца паступовае, але няўхільнае аслабленьне Полацкага княства, якое завяршылася падпарадкаваньню Полацка ўладзе рыскага архібіскупа. Пры дапамозе вялікага князя літоўскага Віценя палачане здолелі выгнаць у 1307 г. крыжакоў, але разам з тым, Полацкае княства трапіла пад уладу Вялікага княства Літоўскага. Такім чынам, недальнабачнае імкненьне палачан на вельмі адказным этапе гісторыі Полацкага княства да атрыманьня часовых эканамічных і палітычных выгод абярнулася стратай незалежнасьці. Гэты гістарычны вурок трэба мець на ўвазе суайчыньнікам.

## Бібліяграфія


[1] Повесть временных лет. Ч.1., М.—Л., 1950 г.

[2] Там-жа.

[3] Полное собрание русских летописей. т.2, Ипатьевская летопись. М., 1962, с. 292. 506.

[4] Белоруссия в эпоху феодализма. Сб. Документов и материалов. т. 1., Мн. 1960, с. 62

[5] Генрих Латвийский, Хроника Ливонии. Введение, пер. И комметн. С.А. Аннинского, М.—Л., 1938 г.




*Перамога полаўцаў над Яраславічамі ў 1068 г. Мініяцюра Радзівілаўскага летапісу.*

# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў

Міхась Белямук



*Менская вобласьць*



**Новы Двор, Менскі р-н**

У 1871 г. каля вёскі недалёка р. Свіслач быў знойдзены скарб, які складаўся з 399 манэтаў, зь іх 32 абломкі. Манэты былі арабскія, бізантыйскія, чэскія, дацкія, францускія і нямецкае імпэрыі. Арабскіх было 92 дыргемы. Дасьледчыкі мяркуюць, што скраб закапалі ў зямлю каля 1000 году.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Абасыды** | Тустэр мін-ал-Ахваз | Іран | 900 | ал-Мутадыр | 1ц |
| | | | | | |
| **Саманіды** | аш—Шаш | Узбекістан | 900 | Ізмаіл ібн Ахмад | 1ц |
| " | Бенджыгір | Афганістан | 909 | Ахмад ібн Ізмаіл | 1ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 911/2 | Ахмад ібн Ізмаіл | 1ц |
| " | Андараба | Іран | 919/0 | Наср ібн Ахмад | 1ц |
| " | ал-Біяр | Іран | 928/9 | Наср ібн Ахмад | 1ц |
| " | Бухара | Узбекістан | 932 | Наср ібн Ахмад | 1ц |
| " | Самарканд | Узбекістан | 919-938 | Наср ібн Ахмад | 5ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 928-931 | Наср ібн Ахмад | 3ц |
| " | Балх | Афганістан | 948/9 | Нух ібн Наср | 1ц |
| " | Бухара | Узбекістан | 946-955 | Нух ібн Наср | 7ц |
| " | Самарканд | Узбекістан | 943-953 | Нух ібн Наср | 6ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 943-946 | Нух ібн Наср | 3ц |
| " | Бахара | Узбекістан | 958-961 | Абдул Малік ібн Нух | 3ц |
| " | Самарканд | Узбекістан | 955/6 | Абдул Малік ібн Нух | 1ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 955-962 | Абдул Малік ібн Нух | 2ц |
| " | Амул | Іран | 967/8 | Мансур ібн Нух | 1ц |
| " | Балх | Афганістан | 964 | Мансур ібн Нух | 1ц |
| " | Бухара | Узбекістан | 964-969 | Мансур ібн Нух | 2ц |
| " | Рашт | Іран | 970-972 | Мансур ібн Нух | 2ц |
| " | Самарканд | Узбекістан | 962-967 | Мансур ібн Нух | 5ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 970-976 | Мансур ібн Нух | 4ц |
| " | ??? | ??? | 968-972 | Мансур ібн Нух | 2ц |
| | Самарканд | Узбекістан | 977/8 | Нух ібн Мансур | 1ц |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 978/9 | Нух ібн Мансур | 1ц |
| " | ??? | ??? | ??? | ??? | 8ц |
| | | | | | |
| **Зіярыды** | Амід | Сырыя | 968-97.. | Бітусун ібн Вашмгір | 2ц |
| " | Джорджан | Іран | 968-974 | Бітусун ібн Вашмгір | 2ц |
| " | ??? | ??? | 971-974 | Бітусун ібн Вашмгір | 2ц |
| " | ??? | ??? | 977/8 | Кабус (?) | 1ц |
| " | Джоржан | Іран | ??? | ??? | 2ц |

Працяг. Пачатак у №6(16), 1992—6(26), 1993

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Бувайгіды** | Араджан | Іран | 976/7 | ??? | 1ц |
| " | Багдад | Ірак | 979/0 | ??? | 1ц |
| " | Джорджан | Іран | 965 | ??? | 1ц |
| | ал-Мухамедыя | Ірак | 965 | ??? | 1ц |
| " | ??? | ??? | 955-978 | ??? | 5ц |
| **Гамданіды** | Мосул | Ірак | 960/1 | Наср ад-даўля (?) | 1ц |
| **Гамданіды** | ??? | ??? | ??? | ??? | 1ц |
| **Іхшыдыды** | Табаря | Палестына | ??? | ??? | 1ц |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Джафарыды** | Тбілісі | Грузія | 954/5 | Монсур ібн Джафар(?) | 1ц |
| **Імітацыя арабскім дыргемам** | | | | | 5ц |
| **Бізантыя** | Ян Цімісхій | | 969--976 | | 1ц |
| **Чэхія** | Балеслаў II | | 967-999 | | 1ц |
| **Данія** | ??? | | 940-960 паўбратэат | Гэдебю | 1ц |
| **Францыя** | Робэрт II, кр. (996-1031) і Адалберо, яп. (995-1031) | | | Лан | 8ц |

**Нямецкая імпэрыя**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ведкі | 950-1075 | | 3ц |
| Атон і Адэльгейда | X-XI ст. | манетніца?? | 47ц |
| Атон і Адэльгейда | сутык X-XI ст. | Гандерсгейм | 21ц |
| Генрык I, імп. | 919-936 | Вердун | 1ц |
| Атон I, імп. | 936-962 | Кёльн | 9ц |
| Атон I, і брат Бруно | 953-965 | Кёльн | 1ц |
| Атон II, імп. | 973-983 | Канстанц | 1ц |
| Атон II, імп. | 973-983 | Мастрыхт | 1ц |
| Атон II, імп. або Атон III | 973-1002 | Кёльн | 4ц |
| Атон II, імп. або Атон III | 973-1002 | Майнц | 118ц |
| Атон III, імп. | 983-1002 | Кёльн | 15ц |
| Атон III, імп. | 983-1002 | Льеж | 1ц |
| Атон III, імп. | 983-1002 | Майнц | 1ц |
| Атон III, імп. да каранацыі | 983-995 | Страсбург | 7ц |
| Атон, герц. | 973-982 | Брейсбах | 1ц |
| Буркгард. герц. | 954-973 | Цюрых | 3ц |
| Канрад, герц. | 954-993 | Базель | 3ц |
| Атон, герц. | 976-982 | Рэгенсбург | 2ц |
| Генрык III, герц. | 982-985 | Рэгенсбург | 3ц |
| Генрык II, герц., паўторна | 985-995 | Рэгенсбург | 1ц |
| Удальрык, яп. | 923-973 | Аўсбург | 1ц |
| Генрык, яп. | 973-982 | Аўсбург | 1ц |
| Эркамбольд, яп. | 965-991 | Страсбург | 3ц |
| Імітацыя манэт Карла Тоўстага, або Карла II, кр. 8876-929 | | Мэц | 11ц |
| Імітацыя манэт, чаканеных ў | | Кёльн | 1ц |

| | | |
|---|---|---|
| Імітацыя манэт, чаканеных ў Рэгенсбургу | | 1ц |
| Імітацыя манэт, чаканеных Атонам і Адэльгейдай | | 1ц |
| Нямецкія манэты не расчытаныя | | 2ц |
| Абломкі манэтаў нямецкай імпэрыі | | 32 аб |

*Bauer б.156—161, Марков... б.23-24, № 134, Кропоткин [2]... 38, № 301*
*Потин.. б. 175, 190, 201, 202, Потин [2]... б. 165-166, № 284, Стукалова б.9*



1



2


3



4


*__1.__Французскі дэнар з г.Лан, кар.Рабэрта II і яп.Адальберо* *__2.__Дацкі поўбрактэат з г. Гэдебю*
*__3.__Нямецкі дэнар з г.Кёльн, імп. Атона I* *__4.__Нямецкі дэнар з г.Рэгенсбург, герц. Генрыка III*

***Няжараўка, Любчанскі р-н***

У 1929 г. А. Ляўданскі раскапаў 2 курганы і знайшоў шклозалочаныя пацеркі.
*Лысенка, б.205, № 219*

***Нясьвіжскі р-н***

У рэзыдэнцыі Радзівілаў у Нясьвіжы знаходзілася калекцыя рымскіх манэтаў, некаторыя з гэтых манэт былі знойдзеныя ў розныя гады ў ваколіцы Нясьвіжу.

Поболь [2].... б.377, №360

***Пагарэльшчына, Валожынскі р-н***

1955 г. вучні школы вёскі Пагарэльшчына знайшлі на беразе рэчкі Бярэзіна, даток Нёману, вялікі скарб, які, паводля К. Палікарповіча важыў ня меней 6000 гр. Скарб складаўся з манэтаў і сярэбраных рэчаў. Манэты й аздобы пераслалі ў беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, дзе яны знаходзяцца не апісаныя. Паводля інфармацыі В.Рабцэвіча,у скарбе было 1901 арабскіх дыргемаў, з гэтага ліку каля 100 манэт ёсьць імітацыяй дыргемаў. У скарбе ёсьць вялікая колькасьць абломкаў: палавінак, чацьвярцінак, васьмушкаў. Значная колькасьць цэлых дыргемаў маюць дзірачкі, значыць, выкарыстоўвалі гэтыя дыргемы за аздобы. Манэты і рэчы знаходзіліся ў бронзавым кацялку, які арнамэнтаваны

медзянымі паяскамі. Няведама, ці кацялок мясцовы, ці прывезены з-за мяжа і зьяўляецца імпартам. Усе манэты ёсьць арабскія. Пераважна гэта дыргемы *Омаядаў, Абасыдаў, Саманідаў, Сафарыдаў, Зіярыдаў,* але маюцца паадзіночныя манэты іншых дынастыяў.

Рэчы сярэбраныя: палавінка нашыйніка, ён сплецены з трох дратоў, дзьве нарыхтоўкі для бранзалетаў, два буты дроту.

*Алексеев [4] б. 102, Палікарповіч, Кропоткин...б.93, № 183, Рабцэвіч і Стуканаў... б.39, № 26, Рябцевич [5]... б.167, 229, № 31*

***Падзеры, Слуцкі р-н***

У 1929 г. А.Ляўданскі раскапаў 7 курганоў і знайшоў 6 шклозалочаных і 2 шлосярэбраных пацерак.

*Лысенко, б.217, №383*

***Парэчча, Мядзельскі р-н***

У 1938 г. Г.Цэгак-Галубовіч дасьледывала курганы каля возера Мядзель. Яна раскапала 7 курганоў, у якіх знайшла 2 арабскія дыргемы ,адзін быў цэлы, другога толькі палавінка. Дыргемы з X ст. Трэцяя манэта была імітацыяй арабскага дыргема. Аздобы былі сярэбраныя: скранёвае кальцо, 3 пацеркі ажурныя філігранныя, пацерка полая, 2 пацеркі пазалочаныя, 4 пацеркі на якіх сьляды пазалоты, і пацерка пасярэбраная, бранзалет бронзавы, які быў пасярэбраны, грудка сплаўленых сярэбраных аздобаў.

Паводля Г.Цэгак-Галубовіч пацеркі ёсьць дрыгавіцкія і дзеля гэтага яе выснова, што крывічы і дрыгавічы тут межаваліся. Яна аспрэчвае прыпушчэньне Ул. Антановіча аб засяленьні гэта часткі Віленшчыны «лета-літоўцамі». Яна кажа: «немажлівым, каб летувісы так далёка пасунуліся на ўсход».

*Cehak-Holubowicz б. 179, 180, 182-183, 187, 197-198.*

***Петраўшчына, Менскі р-н.***

У 1925 г. Ів. Сербаў раскапаў курган, знайшоў сярэбраныя вітыя пярсьцёнкі, шклосярэбраныя і шклозалатыя пацеркі.

*Лысенко, б. 209, № 275.*

***Прыбярэжная, Бярэзінскі р-н***

У 1928 і 1929 г. А. Рынейскі і Ів. Калодкін дасьледвалі гарадзішча і знайшлі сярэбраную спражку.

Збор Пом. гістор. культ. Беларусі, Менская вобл. б.100, №360

***Пчальнік-Кішчына Слабада, Барысаўскі р-н***

У 1968 г. М. Прахорчык і Г.Штыхаў раскапалі курган, у якім была пахаваная жанчына, каля яе знайшлі 4 шклозалочаныя пацеркі.

*Прохорчик и Штыхов... б. 144, Яніцкая, б. 156, № 186, Штыхов [2].. б. 167, № 95.*

*Пятроўшчына, Менскі р-н*

У 1925 г. С. Дубінскі, Ів. Сербаў і студэнт А. Каваленя раскапалі 2 курганы. У першым знайшлі 2 сярэбраных скранёвых кальцы, яны зьвітыя з даволі тонкага дроту. Пярсьцёнак сярэбраны быў зроблены з кручанага дроту. Паміж пацеркамі маністы былі 3 шклосярэбраныя пацеркі. У другім кургане знайшлі 2 сярэбраных скранёвых кальцы, сярэбраны пярсьцёнак, сярэбраную філіграннаю пацерку і 2 шклозалочаныя пацеркі.

*Сербаў б.215, Яніцкая б. 156, № 187*

*Радашкавічы, Маладэчанскі р-н*

У 1892 г. Ф.Пакроўскі раскапаў 3 курганы, знайшоў сярэбраны нашыйнік і шклозалочаныя пацеркі.

*Покровский б.24, Гуревич б.202, № 193*

*Рылаўшчына, Менскі р-н*

У 1925 г. С. Дубінскі, Ів.Сербаў і студэнт А.Каваленя атрымалі паведамленьне, што курганы каля вёскі Рылаўшчына разбураюцца, дзеля гэтага паехалі, каб дасьледываць іх. Яны раскапалі 8 кургаоў і знайшлі сярэбраныя аздобы: на сярэбраным кальцы былі нанізаныя 5 сярэбраных філігранных пацерак, пакрытых зерню; скранёвае кальцо, зьвітае з тонкіх сярэбраных дратоў; 2 сярэбраных пярсьцёнкі, адзін драцяны, другі плоскі; спражку сярэбраную лірападобоную і пацерку шклозалочаную.

*Сербаў [2] б.197-199, 200-201, Лысенко б.210, № 282*

*Савічы, Капыльскі р-н*

У 1916 г. у ўрочышчы Дубішча падчас рамонту дарогі знайшлі скарб, які складаўся з старажытных сярэбраных манэтаў, якія людзі разабралі.

Штыхов [2]... б. 177, № 223.

*Самахвалавічы, Менскі р-н*

У 1897 г. ва ўрочышчы Прусакаўшчына знайшлі арабскі дыргем.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Саманіды | аш-Шаш | 906/7 | Ізмаіл ібн Ахмад |

*Харлаповіч ....б. 332, № 123, Фасмер [2]...б.290, № 30*

*Саламарэчча, Менскі р-н*

У 1978 г. і 1979 гг. Р. Ігнацьеў раскапаў 11 кургаоў, у адным кургане пры пакойніку знайшоў кавалак *сярэбранай парчы.*

*Сіманы, Мядзелькскі р-н*

У 1961 г. недалёк возера Нарач знайшлі гліняны гаршчок з сярэбранымі манэтамі.Манэты былі загорнуты ў бяросту. Было 125 арабскіх дыргемаў, але толькі 57 цэлых, рэшта 68 дрыгемаў былі ў абломках. Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт атрымаў 76 дыргемаў, а краязнаўчы музэй і Маладэчна —18 дыргемаў, дзе дзеліся 31 манэты няма інфармацыяў. Манэты да гэтага часу не апісаныя, а ведама што было 8 дыргемаў *Омаядаў* (панавалі

661-750 гг.), *79 Абасыдаў* і наймалодшая манэта, дыргем ал-Васіка, чаканены ў Мерв у Іране 845/6 г. Адзін дыргем *Ідрысыдаў*, якія панавалі 788-985 гг.

*Рябцевич [2]...б.123, зноска, Потин б. 18, 34, Кропоткин .б.93, № 184*
*Рябцевич [5].... б.230, № 36*

***Сеньніца, Менскі р-н***

У 1976-1977 гг. Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт праводзіў раскопкі курганнага могільніка, знайшлі медзяныя пацеркі, пакрытыя сярэбранай зерню.

*Егорчэнка і Трусаў б.22*

***Слуцк***

Л. Калядзінскі ў 1988 г. зьмясьціў артыкул аб праведзеных раскопках на Вялікай горцы ў Слуцку. Ён піша, што былі знойдзены ўпрыгожэньні з бурштыну, медзі, бронзы і серабра. «Мяркуючы па іх,—дадае Л.Калядзінскі,—Слуцк меў сувязі з Кіевам, Прыбалтыкай, Блізкім Усходам, Каўказам і Бізантыяй».

*Калядзінскі б.8*

***Слуцкі р-н***

Да 1843 г. каля Слуцку ў кургане знайшлі сярэбраны віты з дроту нашыйнік і сярэбраны бранзалет зь вітага дроту.

*Савельев. б. 156, №15 В.*

***Слуцкі р-н***

У 1927 г. быў знойдзены арабскі дыргем, акалічнасьці знаходкі дыргема няведамы і ня ведам якой дынастыяй і дзе чаканены.

*Рабцэвіч і Стуканў б. 38, № 24*

***Слуцкі р-н***

Дакладна няведама, калі былі манэты знойдзеныя, але ў 1960 г. перахоўваліся ў Слуцкім краязнаўчым музэі *4 чэскіх дэнары Бржэтіслава І (1034-1055).*

*Потин [5] б.24, зноска №5*

***Студзёнка, Барысаўскі р-н***

У 1923 г. быў знойдзены дэнары нямецкага імпэратара Генрыка ІІ (1002-1024), Манэта перахоўвалася ў Беларускім дзяржаўным музэі.

*Харлаповіч б. 314, № 42, Потин [2]...б.165, № 283*

***Хаценчыцы, Вілейскі р-н***

У 1892 г. Ф.Пакроўскі раскапаў курган, у якім пры пакойніцы знайшоў сярэбраны пярсьцёнак.

*Покровский [4]... б.146*

***Цясова, Салігорскі р-н***

У 1926-1927 гг. выаралі сярэбраныя аздобы: бранзалет і 5 нашыйнікаў. А.Ляўданскі датуе аздобы X ст.

*Ляўданскі [5].... 245-246,* *Кухаренко... б.27-28, № 155*

***Чырвоны Бор, (Красны Бор) Лагойскі р-н***

Не пазьней 1865 г. былі знойдзеныя паясы, так назваў іх Л.Побаль. Кожны пояс складаўся з двух элястычных сярэбраных бляхаў, якія злучаліся некалькімі бляшкамі і пражкай. Бляхі і бляшкі, аздобленыя чырвонай у розных адценьнях эмалью, таксама эмалью зялёнай, сіняй, белай. Паясы знаходзіліся ў музэі братоў Тышкевічаў у Лагойску да 1870 г. Частку паясоў Тышкевічы перадалі ў 1870 г. Віленскаму музэю старажытнасьцей. У 1919 г з Лагойска забралі паясы ў Варшаву, дзе яны сёньня знаходзяцца ў дзяржаўным архэолягічным музэі. Л.Побаль дасьледываў паясы. Ён на падставе бляхаў, якія зьбераглiся, і тых малюнкаў бляхаў, што загубіліся, прыйшоў да высновы, што паясоў было пяць.

Паясы, паводля Л.Побаля, зьяўляюцца з правінцыяў Рымскае імпэрыі, і яны паходзяць зь першых стагодзьдзяў хрысьціянскае эры.

***Pobol**... б.115-137, там-жа ўся бібліяграфія адносна паясоў.*



*Бляхі паясоў з Чырвонага (Краснага) Бору*

***Чэрвеньскі р-н***

У сярэдзіне мінулага стагодзьдзя Е. Тышкевіч праводзіў раскопкі курганоўі знайшоў арабскую манэту, дыргем меў вушка, выкарыстоўваўся як падвеска. Таксама ён знайшоў 50 шклозалочаных і адну шклосярэбраную пацеркі.

*Успенская б. 117,   Яніцкая б. 157, № 194,   Равдіна.. б. 62, № 85*

***Чэрнікаўшчына, Койданаўскі (Дзяржынскі) р-н***

У 1886-1887 гг. У.Завітневіч раскапаў 13 курганоў, знайшоў 4 сярэбраныя скранёвыя кальцы і 11 шклозалочаныя пацеркі. Знаходкі датуюцца XI—XII стст.

*Гуревіч б. 205, №211, б.220,   Яніцкая б.157, № 193,   Лысенко б. 200, № 150*

***Чэрнікаўшчына, Койданаўскі р-н***

Каля вёскі Чэрнікаўшчына ў розныя гады, рознымі асобамі былі знойдзеныя 6 шклозалочаных пацерак і адна сярэбраная пацерка, пакрытая зерню.

*Гуревич б.205, № 211.*

## Бібліяграфія

Полацак № (8)18, 1992—Марков, Кропоткин, Кропоткин [2], Покровский, Поболь [2], Савельев, Яніцкая, Рабцэвіч і Стуканаў

Полацак №9(19), 1992—Потин, Рябцевич [2], Сербаў, Штыхаў[2]

Полацак №10(20), 1992—Алексеев [4]

Полацак №(1) 21, 1993—Bauer, Cehak-Holubowicz, Потин [2]

Полацак№ 2(22), 1993— Фасмер [2],

Полацак №4(24), 1993—Гуревич

Полацак№5(25), 1993— Потин [5], Покровский [4]

Полацак №6(26), 1993—Лысенко, Ляўдански [5]

Pobol L [5] Skarb metalowych pasow z okresu rzymskiego odkryty w miejscowosci Krasnyj Bor (BSSR)--Wiadomosci archeologiczne, t. XXXVII z.2., W. 1972

Егорчэнка А., Трусаў А. Сенніцкі могільнік, «Помнікі гіс. і культуры Беларусі», Мн., 1977, №2

Калядзінскі Л. У Слуцку на Вялікай горцы, газ. «Голас Радзімы», 17 сак. 1988,

Кухаренко Ю.Средневековые памятники Полесья—Свод археологических источников. Вып. УІ—57, М., 1961

Паликарпович К. Находки древности, газ.«Советская Беларусь», 27 янв.1957

Прохорчик А. Штыхов Г. Курганная группа Пчельник—Кищина Слобода—зб. Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969 ,

Рябцевич В. [5] Денежное обращение. зб.Очерки по археологии Белоруссии, ч.II, Мн.1972

Сербаў Ів. [2] Раскопкі ў ваколіцах Менску ў 1925 г. Гістарычна-археолёгічны зборнік, т.1, Мн. 1927

Стукалова Т. Французкія дэнары ў Беларусі, газ. «Чырвоная зьмена», 3 сак.1990

Успенская А. Курганы южной Белоруссии X—XIII вв. зб.Труды Гос.Исторического музея, вып. 22, М.1953

Працяг у наступным нумары

# Бібліятэка Супрасьлеўскага манастыра

*(Да 405-годзьдзя заснаваньня Супрасьлеўскага манастыра)*

Юры Лабынцаў

Супрасьлеўскі Благавешчанскі манастыр, які недалёка ад Беластока, быў заснаваны ў 1498 г. Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам, маршалкам Вялікага княства Літоўскага, ваяводам наваградзкім і старастам берасьцейскім, пры благаславенстве і актыўнай дапамозе смаленскага япіскапа Язэпа Солтана, які ў травені 1500 г. стаў мітрапалітам кіеўскім. Першапачаткова манастыр знаходзіўся ў вярхоўі ракі Супрасьль, недалёка ад замку А.І. Хадкевіча (сёньня вёска Гарадок). Паводля адных сьведчаньняў, першымі манахамі былі выхадцы з Афона, але іншыя крыніцы кажуць, што першыя манахі былі зь Кіева-Пячэрскай лаўры.

Супрасьлеўскі манастыр становіцца адразу адным з буйнейшых манастыроў у Вялікім княстве Літоўскім і, як сьведчыць мітрапаліт Пётр Магіла, у ім знаходзілася ад 70 да 100 манахаў. Калі архімандрытам стаў Сяргей Кімбара (1532-1565гг.),то Супрасьлеўскі манастыр стаў называцца лаўрай, а ягоныя архімандрыты на мітрапалічых саборах клалі свой подпіс за архімандрытамі Кіева-Пячэрскай лаўры. У першай палавіне ХУІ ст. Супрасьлеўскі манастыр становіцца буйнейшым праваслаўным культурным цэнтрам. Ён атрымлівае ахвяраваньні грашовыя і кніжныя нават з-за мяжы ВКЛ, «с Торопца з Москвы». Разглядаючы запіс у «Помяннике» Супрасьлеўскага манастыра за ХУІ і пачатак ХУІІ стст. мы знаходзім запісы аб паміначьні, якія рабіліся і жыхарамі Маскоўскае дзяржавы: дзеля прыкладу «род Афанасия Глебова в земле Резаньскай» і «род Памва псковитина». Варта адзначыць, што да сярэдзіны ХУІ ст. замацоўваюцца сувязі Супрасьлеўскага манастыра з манастырамі паўдзённаславянскімі, у прыватнасьці з сэрбскімі.

У часе, калі архімандрытам быў Цімафей Злоба (1575-1590) Супрасьлеўскі манастыр стаў сховішчам фамілійных дакумэнтаў сямейства Хадкевічаў, сярод якіх, відаць, знаходзіліся і дакумэнты, якія датычыліся працы Івана Хвёдарава і Пётра Мсьціслаўца ў Заблудаве. Тады-ж замацоўваюцца сувязі манастыра з украінскімі і расейскімі землямі.

Супрасьлеўскі манастыр за часы архімандрыта Герасіма Веліконтыя (1609-1635) пад націскам абставінаў прымае вунію,але праваслаўныя асновы манастыра былі настолькі моцныя, што ён толькі фармальна стаў вуніяцкім і наступнае цэлае стагодзьдзе захоўваў прынцыпы праваслаўя. Богаслужбы адбываліся як і раней па тых-жа праваслаўных кнігах. Гэта-ж практыкуюць і іншыя вуніяцкія цэрквы да 1720 г. Нават і пасьля гэтага году беларуская мова і кірылічны альфабэт ўсё яшчэ ўжываўся ў Супрасьлеўскім манастырскім справаводзтве.

Манастырская бібліятэка пазычае кнігі нават сьвецкім асобам. Манастыр будуе школы, у якіх дзяцей вучаць «рускай грамаце», што азначае беларускаму кірылічнаму альфабэту. У яго сьценах працягваецца перапісываньне рукапісных зборнікаў, і гэтыя рукапісы кірыліцай распаўсюджваюцца на беларускіх і ўкраінскіх землях. Манастыр выконвае выдатную ролю ў распаўсюджваньні асьветы. Да нас дайшлі архіўныя

матэрыялы і рукапісы Супрасьлеўскага манастыра, якія даюць мажлівасьць убачыць, што манастыр быў адным з буйнейшых кнігапісных цэнтраў Беларусі. Тут перапісываліся шматлікія помнікі пісьменства бізантыйскага, балгарскага, сэрбскага, рускага народаў. Таксама маюцца помнікі музычнай культуры, перапісаныя манахамі Супрасьля. Перапішчыкамі былі ня толькі беларусы, але і ўкраінцы. Адным з тых перапішчыкаў, аб якім нельга не сказаць, быў Еўстафій, адзін з выдатнейшых кніжнікаў Супрасьля, асоба адданая й адукаваная. У 1580 г. ён перапіса ў зборнік «полемических и поучительных статей». Таксама неабходна сказаць і аб Багдану Анісімовічу, «спеваке родом с Пинска», дзякуючы якому мы маем надзвычайны твор ўсходнеэўрапейскай музычнай культуры канца ХУІ—пачатку ХУІІ стст.

Манастырская бібліятэка славілася сваімі кніжнымі багацьцямі. Бібліятэка была заснаваная ў першыя годы існаваньня манастыра. Збераглісі дакумэнты тых часоў, у якіх успамінаецца і аб кнігіх. Першы інвентарны запіс зроблены архімандрытам Сяргеем Кімбарам у 1557 г. У ім фіксуецца 209 кнігаў, у тым ліку творы ў мовах грэцкай і лацінскай. Запіс гэты паведамляе, што манастыр ў 1532 г. меў 129 кнігаў, і было 5 кнігаў «бітых», што значыць, друкаваных. Дваццаць пяць год пазьней, у 1557 г. у манастырскай бібліятэцы было 7 «бітых» кнігаў. Наступны інвентарны запіс, што зьбярогся з 1645 г. паведамляе аб 600 кнігах, паміж якімі друкаваных у лацінскай мове было 212 тамоў, а на польскай 152. Бальшыня гэтых друкаваных кнігаў была куплена ў Гданьску, Варшаве і Тыкаціне. Кірылічных кніг, пераважна рукапісных, было тады больш за 200, гэта аднатоўвае і папярэдні вопіс 1557 г.

Сярод друкаваных кнігаў было нямала выданьняў «друку Скорининского». Бібліятэка мае ўнікальны экземпляр В.Цяпінскага «Евангельля», выданьні Івана Хведарава, мажліва, выданьні Ш. Фіёла, маскоўскія кнігі ананімнай тыпаграфіі.

У 1688 г. ізноў адбыўся перапіс кнігаў, і бачым мы, што ў бібліятэцы колькасьць друкаваных кнігаў пабольшылася, іх стала больш ад рукапісных, але колькасьць кнігаў на мовах лацінскай і польскай паменшылася ў два разы: 104 лацінскіх і 72 польскіх. Адносна кніг кірылічных, то іх налічваецца каля 200. Сярод іх першае мейсца займаюць рукапісы, якія ўспаміналіся ў папярэдніх перапісах. Варта адзначыць, што акрамя кнігаў, надрукаваных кірыліцай і лацінкай, бібліятэка мае выданьні кнігаў у грэцкай мове: Евангельле, Новы запавет, граматыку грэцкай мовы. Гэта паказчык, што Супрасьлеўскі манастыр працягваў традыцыю, якая была пакладзеная з годам яго заснаваньня.

Будучы яшчэ ў ХУІ ст. найбагацейшай бібліятэкай Вялікага княства Літоўскага, манастырскае кнігасховішча ў наступным ХУІІ ст. заставалася адным з буйнейшых і багацейшых у Беларусі. Пры гэтым яго кірылічны фонд дазваляе гаварыць аб Супрасьлі як найбольшым цэнтры кірылічных кнігаў ня толькі беларускіх, але й усіх усходнеславянскіх зямель у цэлым. Апрача цудоўнага помніка кірылічнага славянскага пісьменства XI ст. так названага «Супрасьлеўскага рукапісу», тут знаходзіліся таксама вядомыя творы «происходящие из Супрасьля Киевская и Новгородская летописи» (БАН), Супрасьлеўскі сьпісак беларуска-літоўскага летапісу 1519 г (БАН). Усе гэтыя помнікі былі апублікаваныя ў XIX і XX стст., бо яны ёсьць крыніцы гісторыі і культуры беларускага народу й адначасна знаёмяць з славянскім этнасам навогул.

Акрамя названых рукапісных зборнікаў неабходна адзначыць тыя кнігі, зь якімі спалучаны традыцыі ўсходнеславянскай музычнай культуры, менавіта старажытнейшы кірылічны рукапіс нотналінейного пісьма «Супрасльский Ирмологион 1598--1601 гг». У манастыры перахавалася значная колькасьць «певческих» рукапісаў і кнігаў, у гэтым ліку і маскоўскага паходжаньня.

Асаблівай увагі заслугоўвае тое, што Супрасьлеўскі манастыр зьбярог зборнікі, напісаныя кірыліцай на пергамэньце, такіх зборнікаў было некалькі.

Апрача агульнай бібліятэкі, у сьценах манастыра знаходзіліся бібліятэкі келіяў манахаў. Нам вядомыя толькі некаторыя кнігі з гэтых келійных бібліятэкаў. Напрыклад, зьбераглася частка пергамэнтнага Евангельля Апракос XIII—XIУ стст. (знаходзяцца ў БАН). На першым лісьце гэтай часткі маецца інфармацыя, што ўласьнікам яе быў «Евстафий архидиакон монастыра Супряслиского», якая сьведчыць, што кніга гэтая паходзіць з келійнай бібліятэкі супрасьлеўскага манастыра, а ўласьнікам яе быў архідыякан Яўстафій.

Кнігі манастыра не ляжалі мёртвым грузам, іх чыталі ў манастыры і за манастырскімі сьценамі, перапісывалі, яны «вандравалі». Манастыр даваў кнігі з сваёй бібліятэкі іншым цэрквам, сьвецкіх асобам. Прыкладам, у 1654 г. князь Януш Радзівіл узяў 2 кнігі, напісаныя кірыліцай: Хроніку й Ірамалогій. Ён пакінуў у манастыры распіску, напісаную ўласнаручна, якая зьберaглася.

У ХУIII ст. манастырская бібліятэка значна папоўнілася новымі кнігамі, асабліва кнігамі ў лацінскай мове і польскай. Бібліятэка папоўнілася і ўласнымі кнігамі, якія друкаваліся ў Супрасьлеўскай друкарні з 1687 г., адной з найбольшых беларускіх друкарняў дасавецкага пэрыяду.

Вопіс манастырскае бібліятэкі 1764 г. інфармуе аб 1456 кнігах, сярод іх 800 было ў лацінскай, 300 на польскай мовах, некалькіх дзясяткаў на мовах французскай і італьянскай і больш дзесятка на нямецкай. Таксама называецца крыху больш за сотню рукапісных і друкаваных царкоўнаславянскіх кнігаў,што сьведчыць аб значным паменшаньні іх ліку ў параўнаньні з колькасьцю ў ХУII ст.

У пачатку XIX ст. Супрасьлеўская бібліятэка зьвяртае на сябе ўвагу вядомых сусьветных славістаў. Навукоўцы, наведваючы Супрасьль, знаходзяць за кожным разам няведамыя і мала вядомыя творы. Адной з такіх знаходак была знаходка Супрасьлеўскага рукапісу XI ст., старажытнейшага рукапісу славянства. Знаходжаньне каштоўнейшых і ўнікальных кнігаў стала прычынаю, што паступова яны зьнікаюць з бібліятэкі, іх вывозяць, а настаяцелі манастыра не пратэстуюць гэтаму, нават у некаторых выпадках апрабуюць.

У 1836 г. адбыўся перапіс манастырскай бібліятэкі, яна налічвала 1862 кнігаў. На мовах: лацінскай—каля 1100, польскай—каля 400, італьянскай—болей за100, французскай—больш за 50, нямецкай больш 20. У перапісу адзначаны разьдзел «Бібліятэка славянская», у якім былі пераважна кнігі на царкоўнаславянскай мове. Іх налічвалася 130 і пад №1174 адзначалася «Книга Иова» надрукаваная ў 1517 г. у Празе Франьцішкам Скарынаю.

Супрасьлеўскую манастырскую бібліятэку ў 1876 г. перавезьлі ў Вільню, аддалі Віленскай публічнай бібліятэцы, але падчас перадачы аказалася, што найбольш старажытныя, каштоўныя, унікальныя і рэдкія кнігі прапалі. Із забралі розныя людзі і вы-

везьлі за межы Беларусі. У Вільню прывезьлі 1109 кнігаў і каля 200 справаў манастырскага архіва. У Супрасьлеўскім манастыры пакінулі некалькі дзесяткаў кнігаў, у асноўным гэта былі царкоўнаслужбовыя кнігі, пераважна новага друку.

Дзякуючы настаяцелю манастыра, архімандрыту Мікалаю (Далматаву) бібліятэка і архіў з 1880 г. пачынаюць расьці. Ягонымі стараньнямі складзены каталёг, паводля якога бібліятэка пачатку XX ст. налічвае 1000 адзінак, а ў архіве перахоўваецца каля 700 дакумэнтаў. Аднак збор гэты не такі каштоўны, што ранейшы, хаця і ён прапаў, а сам манастыр быў практычна зьнішчаны.

У сучаснасьці большая частка рукапісаў і друкавых кнігаў Супрасьлеўскага манастыра знаходзіцца ў Вільні, другая частка ў бібліятэках Санкт-Пецярбурга, Масквы, Варшавы, Любляны ды іншых гарадоў.

З 1980 г. праваслаўная царква ў Польшчы пачала стараньні, каб Супрасьлеўскі манастыр вярнулі царкве і стараньнямі праваслаўнай мітраполіі ў Польшчы пачалася адбудова Благавешчанскага сабору. Прадугледжываецца ў сьценах маснатыра ўзнавіць яго славутую бібліятэку і зрабіць Сурпасьль адным з цэнтраў славянскай праваслаўнай культуры.

## Літаратура


Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо—Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебого округа. Вильна 1870, т.9.

Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки церковно-славянских и русских В.1882.

Николай (Далматов) Супрасльский Благовещенский монастырь. СПб. 1892.

Рогов А.И. Супрасль как один из центров культурных связей Белорусии с другими славянскими странами, //Славяне в эпоху феодолизма: К столетию академика В.И.Пичеты. М., 1978

Лабынцев Ю.А. Издания Франциска Скорины и других славянских первопечатников в библиотеке Супрасльского монастыря// Белорусский просветитель Франциск Скорина и начало книгопечатания в Белоруссии и Литве. М., 1979

Лабынцаў Ю.А. Пачатае Скарынам. Мн., 1990

В.Цібуля. Манастырскія і церковныя бібліятэкі ў Беларусі. Помнікі гісторыі і культуры Беларусі., №3, 1970.




*Аляксандр Хадкевіч*

# Бібліятэкі на беларускім шляху Адраджэньня

Валеры Герасімаў

Кніга і бібліятэка. Яны заўсёды былі найважнейшымі фактарамі і сродкамі прагрэсу чалавечай цывілізацыі. Нацыянальная кніга і нацыянальная бібліятэка (у шырокім сэньсе) заўсёды вызначалі розум, інтэлектуальную каштоўнасьць, калі хочаце, узровень культурнай элітарнасьці усякай нацыі. Беларускай Кнізе і Беларскай Бібліятэцы можна сьмела глядзець чалавецтву ў вочы, бо маем мы ў сваім гістарычным актыве Еўфрасіньню Полацкую і Францішка Скарыну.

Але тое было калісьці. Сёньня-ж стала нават крыху модным казаць пра занядбанасьць культуры навогул і бібліятэчнай справы ў тым ліку. Бібліятэчная грамадзкасьць праводзіла ўжо і мітынгі пратэсту, і апелявала да «власти предержащих» у шматлікіх адозвах. У бібліятэк няма сродкаў, камп'ютэрызацыя на пячорным узроўні будынкі ў аварыйным стане.

Прычыны? Яны таямніцы не ўяўляюць і сёньня даволі грунтоўна прааналізаваны шмат кім зь дзеячоў культуры. Гэта —таталітарнасьць і аднабаковая ідэалягізаванасьць грамадзкага і духоўнага жыцьця, генетычна закладзеная ў тыя дні, калі палалі дваранскія маёнткі з багацейшымі фамільнымі кнігазборамі, калі старажытнейшыя, гістарычна склаўшыяся бібліятэкі дарэвалюцыйных дзяржаўных установаў, манастыроў, духоўных акадэміяў і сэмінарыяў ліквідаваліся, а літаратура зь іх звозілася ў адну-дзьве буйнейшыя (цэнтралізавалася)і ляжала там неапрацаванай, зваленай у кучы дзесяткі гадоў. Гэтае адмоўленае стаўленьне на дзяржаўным узроўні да нацыі і нацыянальнай культуры саміх па сябе. Як ні горка, але, сапраўды, менавіта фонды старажытных рэдкіх і каштоўных кніг і рукапісаў нашай скарынаўскай спадчыны, ва ўсіх трох буйнейшых навуковых бібліятэках рэспублікі—Нацыянальнай, Акадэмічнай, Урадавай, — не маюць патрэбных матэрыяльна-тэхнічных умоваў захоўваньня.

Афіцыйная справа быццам-бы рухаецца. Прыняты загад Міністэрства культуры «Аб узмацьненьні прапаганды беларускай літаратуры і пэрыядычных выданьняў у бібліятэках рэспублікі»(1986), «Бібліятэчныя» падразьдзелы былі ў прапановах да праграмы «Спадчына» і Закона аб культуры ў БССР. Рапрацоўваўся нават асобны заканадаўчы акт аб бібліятэках і бібліятэчнай справе ў Беларусі. Але на душы неспакойна. Бо ўсё вельмі нагадвае нейкую чарговую кампанію. Так было шмат разоў. Толькі адзін прыклад— барацьба за цьвярозасьць. Бібліятэкі нават пляны мерапрыемстваў распрацоўвалі, і стэнды антыалкагольныя афармлялі, і ягоныя супрацоўнікі пагалоўна ў суполкі цьвярозасьці заганяліся... Чым усё скончылася — таксама не сакрэт.

Дык дзе гарантыя, што і зь беларусізацыяй бібліятэчнай справы так не адбудзецца? Беларусі патрэбны Нацыянальны сойм. Беларусі патрэбна нацыянальная культура. Беларусі патрэбны Нацыянальныя бібліятэкі. Гэтыя імператывы адзін без аднога аб'ектыўна проста не могуць існаваць у сацыяльнай прыродзе. Таму і дадзены артыкул прысьвечаны менавіта канцэпцыі Бібліятэкі на беларускім шляху Адраджэньня.

Некалі Антон Навіна (Луцкевіч) пісаў у «Маладой Беларусі» (1912): *«Мы называем беларускі нацыянальны рух адраджэньнем, але можна гаварыць аб адраджэньні, уваскрэсеньні толькі таго, што ўжо колісь нарадзілася, жыло і замёрла. У гісторыі беларусаў, як нацыі, мы бачым усе тры гэтые момэнты.»*

Вядома, «усе тры гэтые момэнты» тычацца і гісторыі беларускіх бібліятэк, за якімі стаяць кнігазборы Полацкага Сафійскага сабора (вядомы з 1066 г.), Супрасьлеўскага манастыра (з 1498 г.), кніжніца ў Смаленску (з 1081 г.) багатыя традыцыі кніжніц «залатога веку» Вялікага княства Літоўскага. Бібліятэкі—наш гістарычны скарб і скарбніцы нашай гісторыі— заўсёды былі зьвязаны з жыцьцём беларускага народу. Своеасаблівае сьведчаньне таму тое, што ў розныя часы аддалі даніну бібліятэчнай справе лепшыя зь лепшых сыны Бацькаўшчыны. Працавалі бібліятэкарамі ў бібліятэцы Радзівілаў—У.Сыракомля, у бібліятэцы Храптовічаў—Я.Чачот, вельмі любіў бібліятэчную справу і з ахвотай ею зьймаўся Я.Купала. Паэт быў заснавальнікам бібліятэкі Беларускага навукова-літаратурнага гуртка студэнтаў Пецярбургскага унівэрсытэта, бібліятэкарам у бібліятэках Даніловіча (Вільня) і Народнага дому Камісарыята асьветы (Менск). Гэта ён, Купала, пісаў у аўтабіяграфіі, што знайшоў у Вільні *«мейсца ў бібліятэцы, мейсца, аб якім я марыў яшчэ зь дзяцінства»*. І ў лісьце (1909) да Б.Эпімах—Шыпілы зазначыў: *«Мне надта хацелася-б убіцца ў якую-колечы бібліятэку, так гэтае заняцьце неяк страшна люблю. Калі-б што-небудзь падвярнулася, то тэлеграфіруйце мне...* («Янка Купала і бібліятэчная справа», «Лім» за 14 верасьня 1957 г.) Каля трыццаці гадоў жыцьця ахвяраваў бібліятэцы Пецярбургскага ўнівэрсытэту адзін з кіраўнікоў выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца» Б.Эпімах—Шыпіла. Працаваў у бібліятэцы Румянцаўскага музэя (былой Дзяржаўнай бібліятэцы СССР), спачатку памочнікам бібліятэкара, а пасьля хавальнікам Дашкоўскага этнаграфічнага музэя і аддзяленьня замежнай этнаграфіі, вядомы дзеяч беларускай культуры М.А. Янчук. Не прарываецца справа беларуса ў і ў Публічнай бібліятэцы (Пецярбург). Калісьці ў ёй «бібліятэкарыў» брат Кастуся Каліноўскага Віктар, загадчыкам аддзела камплектаваньня была сястра С.Палуяна З.Каракіна, сёньня плённа рупіцца дасьледчык беларускай кнігі М.Нікалаеў. Доўгі час ўзначальваў бібліятэку АН БССР археограф і гісторык Д.І.Даўгяла. А заснавальнікі Беларускага музэя і бібліятэкі ў Вільні Іван і Антон Луцкевічы? А бібліяграфічная дзейнасьць Р.Зямкевіча, Я. Карскага, В.Ластоўскага, У Пічэты, Ю. Бібілы, Н. Ватацы? Прыклады можна доўжыць бяскоца. Такім чынам, што такое бібліятэка й яе асьветніцкая роля, дзеячы беларускай культуры і нацыянальнага адраджэньня ведалі не на словах.

Асабліва ўзрастае роля бібліятэк у нацыянальным руху напачатку XX ст. Трэба зазначыць, што «адраджэнцкія» функцыі выконвалі тады найперш кнігазборы пры беларускіх грамадзкіх і навукова-культурных згуртаваньнях, рэдакцыях беларускіх газэт і выдавецтваў. Імі шырока карысталіся ўсе слаі тагачаснага нацыянальна сьвядомага грамадзтва. Толькі адзін прыклад. У другім зборніку «Шляхам гадоў» (1990) маю ўвагу прыцягнула цікавая публікацыя «З архіва «Нашай нівы», якая зьмяшчала лісты ў рэдакцыю газэты: «Атрымліваць газэту і «кніжкі беларускія» хочуць —беларус з Лодзі, якога лёс закінуў на чужыну, падпаручнік зь сібірскага Нерчынска,

настаўнік з Чарнігаўшчыны, рабочыя з вагонных майстэрняў Ніжне-Дняпроўска, бібліяфіл і бібліёграф Р.Зямкевіч і г.д. Пра тое-ж «покорнейше просят» бібліятэка Дзяржаўнай Думы, студэнцкая чытальня Маскоўскага сельскагаспадарчага інстытута, Адэская гарадская публічная бібліятэка. Слалі запыты на адну кніжку, і часта па цэлых спісках дзясяткаў асобнікаў. Выконвалі сябры рэдакцыі і чыста бібліяграфічныя абавязкі, паведамляючы чытачам *«якія ёсьць сачыненьні на беларускай мове»*, рэкамендуючы *«філалагічныя працы для азнаямленьня зь беларускім пытаньнем»*. З перапіскі вынікае, што ў сваю чаргу, рэдакцыі дасылалі кнігі і Я.Карскі, і Б.Эпімах Шыпіла, і Маскоўскае кнігавыдавецтва «Польза», і Імператарскае таварыства гісторыі і старажытнайсьцей расейскіх. Паступова зь іх і склаліся бібліятэкі пры «Нашай ніве», Беларускім музэі ў Вільні.

Пасьля рэвалюцыі ў бібліятэчнай справе было зроблена шмат добрага. Створаныя буйныя рэспубліканскія навуковыя бібліятэкі, сярод іх —Дзяржаўная (сёньня Нацыянальная), з асобным 40-тысячным (1933 г.) фондам беларусазнаўчай літаратуры. Кніжка праз сетку масавых бібліятэк даходзіла да самых глухіх куткоў Беларусі. Пачала функцыянаваць Кніжная палата БССР і праводзіцца дзяржаўная рэгістрацыя друкаванай прадукцыі. Ды ня трэба забывацца, што аналягічныя працэсы ішлі тады ва ўсім цывілізаваным сьвеце. Да таго-ж здабыткі «сацыялістычнай культуры» значна перавышаліся выдаткамі, бо, як вядома, і бібліятэкі закранула супрацьборства, якое разгарнулася ў палітыцы беларусізацыі 20-30 гг. паміж трыма крыламі грамадзтва і партыйна-дзяржаўнай улады: нацыянальна-дэмакратычным (Ластоўскі, Лёсік, Цьвікевіч), нацыянальна-камуністычным (Жылуновіч, Чарвякоў), і вялікадзяржаўна-камуністычным, таталітарным (Кнорын, Гей).

Кнорын і ягоныя паплечнікі ў 20-х гадах адкрыта не змагаліся зь беларусшчынай. Яны павінны былі праводзіць пляны беларусізацыі ў жыцьцё, бо гэта зьяўлялася тады афіцыйнай пазыцыяй урада БССР. Але беларусізацыю бальшавікі хацелі зрабіць нейкай сваёй, на камуністычны «капыл» (нацыянальная толькі форма, абалонка, а ў сярэдзіне пустата дыктатуры пралетарыята.)

Вось Вільгельм Кнорын пералічвае мерапрыемствы *«узмацьненьня работы па ўкараненьню беларускай кнігі ў масы»*, сьвярджае аб неабходнасьці *«павялічыць беларускую частку кніжнага інвентару бібліятэк»*. (За культурную рэвалюцыю. Мн., 1923, с. 77). А вось у дакладзе на агульным сходзе працаўнікоў асьветы г. Менску 1 лютага 1923 г. гучыць зь яго вуснаў наступнае:

«*Ня трэба нам шукаць гісторыю нашага культурнага уздыму ў эпосе Стэфана Баторыя, як гэта робіць адна кніга, выданая ў БДУ (ды яшчэ прысьвечаная X—годьздзю Кастрычніка). Ня трэба шукаць разьвіцьця нашай беларускай культуры ў езуіцкай акадэміі, якая была створана 400 год таму назад, як гэта некаторыя прабуюць рабіць. Ня ў гэтым справа. Езуіцкая акадэмія або езуіцкая калегія ХУІ веку была створана для арганізацыі прыгнечаньня шырокіх мас працоўных, а зусім, не для ўздыму культуры гэтых мас*». (Гэта пра акадэмію Віленскую, бібліятэка якой каля 200 гадоў была самай буйнай у Вялікім княстве Літоўскім). *У Кастрычнікавую рэвалюцыю якраз зьняты ўсе тыя вучоныя зь езуіцкае акадэміі і ліцэяў,зьнята тая эксплуататарская зграя, якая была створана мінулай культурай, якая мела ў дзесяткі разоў больш ведаў у галіне прыроды і культурных навычак, чым*

*мы»* (Тамсама с.12,32). Як бачым у палямічным напале спляжаньня мінуўшчыны Кнорын нават не заўважае як апошнім сказам высякае сам сябе. А ўвогуле, пралетарска-сацыялягізаваная цемрашальская сутнасьць яго выказваньняў бачна простым вокам, тут і абвяржэньняў не патрабуецца.

28 студзеня 1933 г. ЦК КП(б)Б прымае пастанову *«Аб фактах прасочваньня клясава-варожых, нацыянал-дэмакратычных уплываў у мастацкай літаратуры БССР»*: *«....за спазьненьне і несвоечасовае выкрыцьцё клясава-варожых вылазак на літаратурным фроньце рэдакцыі газэты «ЛіМ» абʼявіць вымову». «Бюро ЦК абавязвае кожнага камуніста і камсамольца-пісьменьніка ўсямерна ўзмацьняць рэвалюцыйную пільнасьць, бальшавіцкую непрымірнасьць да клясава-варожых вылазак, варожых уплываў на літаратурным фроньце, бязьлітасна ускрываючы і зрываючы маскі зь клясавага ворага, выступаючага скрозь і ўсюды пад фальшыва-нацыянальным сьцягам, даючы і сакрушальны адпор, разам з тым беражліва і чутка адносячыся да тых пісьменьніцкіх кадраў, якія імкнуцца стаць на службу справе сацыялістычнага будаўніцтва...»* і г.д. (Рабочий. 1933, 4 сак.). У пастанове бюро ЦК і прэзыдыума ЦКК КП(б)Б у сувязі з артыкулам *«Пад фальшыва-нацыянальным сьцягам»* у «Правде» ад 3.11.1933 г. гаварылася: *«...асабліва пільна праверыць кніжную і часопісную прадукцыю за 1931-32-33 гг., з тым, каб выключыць палітычна шкодную, клясава-варожую прадукцыю..*(Рабочий. 1933, 4 сак.). Пачынаюцца рэпрэсіі супраць навукоўцаў і пісьменьнікаў. Зьнікаюць у нетрах спецховаў працы і кніжкі Я. Лёсіка, У.Ігнатоўскага, У.Пічэты, В.Ластоўскага, А.Луцкевіча і г.д. Рэпрэсуюцца творы, якія захоўваюцца ў бібліятэках. А ў бібліятэках, як вядома, працуюць бібліятэкары. Дахо-дзіць чарга і да іх:

*«Бібліятэкі пры сельсаветах Гомельскага раёна засьмечаны контррэвалюцыйнай літаратурай такіх заядлых ворагаў народу, як Чарота, Гаруна, Гартнага і інш. Нават на руках у кліентаў разданы шэраг іх кніжак. (...)*

*Ад рэдакцыі: Рэдакцыя яшчэ раз зьвяртае ўвагу Наркамасьветы і раённых камітэтаў партыі на тое, што з паступаючых сыгналаў у рэдакцыю відаць, што да гэтага часу шэраг бібліятэк засьмечана контррэвалюцыйнай літаратурай.*

*Неабходна зараз-жа прыступіць да дэтальнай праверкі і асчысткі бібліятэк ад нягоднай літаратуры»* («Ачысьціць бібліятэкі ад нягоднай літаратуры». ў «Звязда» за 8 чэрвеня 1937 г.)

У выніку такога «змаганьня з клясавым ворагам» бібліятэкі паступова губляюць адметнае нацыянальнае аблічча. Сярод кіраўнічага складу бібліятэкаў пасяляецца жах, які доўгія гады пасьля будзе вызначаць накірункі практычнай дзейнасьці. І. Б.Сіманоўскі, С. В. Ашаровіч, вядомыя бібліятэчныя асобы ў СССР, якія ўзначальвалі доўгі прамежак часу (да вайны і пасьля) адпаведна Дзяржаўную і Урадавую бібліятэкі, і іх наступнікі (хоць і былі беларусамі па нацыянальнасьці), узьняўшы бібліятэчную справу ў рэспубліцы на дастаткова высокі ўзровень, баяліся, аднак, як маскаль ляха «культуралягічных» цэрбераў ад КПСС, баяліся, як няведама чаго абвінавачваньняў у падтрымцы інтэлігентаў—«нацыяналістаў». Таму зараз мы маем тое, што маем.

Бібліятэкі на беларускім шляху. Што гэта азначае сёньня? Якой працы вымагае ад людзей, прысьвяціўшых сваё жыцьцё кнізе? Беларускіх бібліятэкараў непатрэбна вучыць бібліятэчаній тэхналёгіі, яны добрыя спецы. Але вось падыход да беларусшчыны

мяняць неабходна. Стыржнем зьяўляецца функцыянаваньне Нацыянальнай бібліятэкі. Менавіта пад яе эгідай павінна ажыцьцяўляцца праца па зьбіраньню ў бібліятэках рэспублікі поўнага нацыянальнага і краязнаўчага (пра Беларусь на іншых мовах) асобніка друкаванай прадукцыі і складаньне, у выглядзе зводных друкаваных каталёгаў і паказьнікаў, поўнага нацыянальнага кніжнага рэпертуару. (Тое, што ўжо напрацавана, выдана, падагульніў у 1986 г. друкаваны зводны каталёг «Кніга Беларусі» 1517—1917»).

Каб складаць нацыянальны рэпертуар трэба, зразумела, мець сам аб'ект —кніжную спадчыну. Як пісала загадчыца аддзела Дзяржаўнага музэя гісторыі беларускай літаратуры Ніна Цьвірка : *«асабліва цяжка з набыцьцём матэрыялаў па дакастрычніцкаму пэрыяду. У бібліятэках—іх лічаныя адзінкі»*. (ЛіМ, 2 IX, 1988) Чаму так сталася?

Войны. Ідэалягічныя, рэлігійныя, каланіялістычныя варункі. У 1581 г. езуіты палілі кнігі і рукапісы 13 полацкіх праваслаўных манастыроў. Пасьля скасаваньня вуніі (1839 г.) гарэла ў вогнішчах вуніяцкая літаратура. А самыя каштоўныя беларускія кніжныя рарытэты і калекцыі апынуліся, на жаль, за межамі Беларусі. Таму вяртаньне кніжнай спадчыны на Бацькаўшчыну павінна быць ў цэнтры ўвагі бібліятэкаў і кнігазнаўцаў.

Неабсяжны акіян хатніх бібліятэкаў. Колькі рэдкіх кніг, часопісаў і газэт, якіх няма нават у рэспубліканскіх бібліятэках, тояць зборы кніжнікаў-аматараў. Гэта ў лепшым выпадку. А ў горшым—ляжаць недзе на лецішчах і трухлеюць без дагляду непатрэбныя сучасным гаспадарам. Малалікім супрацоўнікам літаратурных музэяў і архіваў, аддзелаў рэдкай літаратуры буйнейшых бібліятэк немагчыма дайсьці да кожнага патэнцыяльнага захавальніка. Тут магло-б дапамагчы Краязнаўчае таварыства, ды яно усё ня можа разгарнуць гэтую працу. Патрэбна аднавіць «Беларускае таварыства Бібліяфілаў», якое добра працавала ў 1926— 1929 гг. (Старшынёй яго быў М.Шчакаціхін, сакратаром М.Касьпяровіч).

Мроіцца мне нават цэлае грамадзкае рушаньне па збору літаратуры і дакамплектаваньню рэдкіх фондаў бібліятэк і музэяў Беларусі. Бо калі параўноўваеш іх, напрыклад, з прыбалтыйскімі, то вельмі ўжо не на нашу карысьць такое параўнаньне. Таму справай гонару кожнага сьвядомага беларуса павінна стаць зараз дапамога ў пашырэньні карыстаньня кніжным багацьцем. Упэўнены —наперадзе мноства прыемных нечаканасьцей, як, напрыклад, перадача жыхара Навасёлак на Ашмяншчыне Гальшанскаму гісторыка-краязнаўчаму музэю частку каталёга асабістай бібліятэкі графа Адама Чапскага з назвамі больш за 500 рэдкіх кніг.

Або паглядзім у крыху іншым разрэзе. На ўвесь сьвет вядомыя хары прыбалтаў. Ледзь ня кожны латыш, эстонец, летувіс напяе вам без перадыху хоць нацыянальны гімн, хоць зь дзясятак народных песьняў.А беларус? Высакароднейшай справай лічыў некалі Янка Купала мець беларусам свой нацыянальны гімн, свае патрыятычныя песьні (гл. Спадчыну, №1, 1990 г.). І што-ж? Знайшоў я ва Урадавай бібліятэцы «Сьпеўнік музыкі У.Тэраўскага» (Менск, 1926), дзе сабраны вайсковыя песьні з нотамі для беларускіх нацыянальных частак, між іншым, і «Вайсковы марш» (Мы выйдзем шчыльнымі радамі) на словы М.Краўцова. Кінуўся замаўляць тыя спеўнікі па міжбібліятэчнаму абанемэнту. У бібліятэках (буйных) Менска—няма, Пецярбурга—няма, Масквы—зноў-жа няма. Зараз мой квіток-запыт ў

Вільне. Мо і будзе станоўчы вынік. Але ці ня сорам ня мець такіх кніжак ў Беларусі? Марудзіць у зьбіраньні кніжных рарытэтаў нельга. Бязьлюднее вёска, чарнобыльская зона. Пашыраюцца кантакты з багатымі на даляры замежнымі калекцыянерамі. Наплываюць на Беларусь армады хцівых «кніжных жучкоў» з памежных рэспублік. Абрабавалі-ж у 1990 г. царкву ў маім родным Брагіне, вынесьлі службовыя рэлігійныя кнігі ХУІІІ—ХІХ ст.

Няма аднак патрэбы ў залішняй цэнтралізацыі каштоўнай і рэдкай літаратуры толькі ў рэспубліканскіх бібліятэках. Дэцэнтралізацыя ў разумных межах пашырае абсяг папулярызацыі, магчымасьцей пазнаёміць з рарытэтамі самыя розныя сацыяльныя і прафэсыйныя плясты насельніцтва. Нельга не пагадзіцца з. Б.Сачанкам, што каб быць агульным скарбам, калекцыі архіваў і бібліятэк «найперш павінны існаваць» Гэта значыць, што захаваньне ў некалькіх месцах зьяўляецца своеасаблівай гарантыяй ад новых пажараў і патопаў, што досыць рэгулярна «наведваюць» буйныя бібліятэкі.

(Заканчэньне ў наступным нумары)



*На здымку: Дырэктар Веткаўскага музэя Ф.Шкляроў трымае «Апостал», выдадзены 410 гадоў назад І.Хвёдаравым. Кнігу прынесла ў дар музэю жыхарка в.Шаломы Г. Далгова*

# Гістарычная мінуўшчына Горадні і Горадзеншчыны

 Уладзімер Брылеўскі 

Кожны раз, калі цягнік, якім я калісь шмат разоў ехаў зь Вільні ў Варшаву, прыбліжаўся да Горадні й неўзабаве, узыйшоўшы на чыгуначны мост, паволі пераяжджаў няшырокі, але вельмі хуткі ў гэтым месцы Нёман, калі з вакна вагону вачом адкрываўся цудоўны від на панараму гораду, які разьлёгся па абодвух высокіх берагох ракі, мне прыгадваліся словы прыгожага верша беларускага паэта Макара Краўцова (Косьцёвіча):

*Ізноў цябе вітаю,*
*Мой родны Горадзен стары*!
(«Паварот да Горадні»)

Макар Краўцоў у сваім вершы называў Горадню «старым» горадам. Запраўды, Горадня— горад старажытны, адзін з найстарэйшых у Беларусі. Ён ужо ўспамінаецца ў летапісах з XII-га ст. Старажытнае ядро гораду—умацаваны пункт Горадня —узьнікла ў канцы XI ст. на высокім стромым узгорку на правым беразе пры ўплыве ў яго ракі Гарадніčанкі. Палац князя, саборная княская царква й жылыя дамы былі абкружаны магуным мурам. Ужо ў той далёкай гістарычнай мінуўшчыне ў Горадні паўставалі велічныя пабудовы. Рукамі Горадзенскіх дойлідаў будаваліся замкі, палацы, цэрквы й жылыя дамы, якія сьведчаць пра самабытнасьць мясцовай архітэктурнай школы. У XII ст. былі збудаваныя Барысаглебская й Ніжняя цэрквы. Ужо на пачатку XII ст. існавала абшырнае Горадзенскае княства, з сталіцай Горадня. Архэолягічныя раскопкі Замкавай гары ў Горадні, робленыя ў 1932-1939 гг і ў 1949 г. паказалі, што горад ужо існаваў у XI ст. Гэтыя-ж раскопкі сьведчаць, што ў ім тады разьвіваліся рамяство, гандлёвыя сувязі з Прыбалтыкай, Польшчай і гарадамі Кіеўскай Русі, а ў XII ст. і высокая культура дойлідзтва. Назоў гораду паходзіць, праўдападобна ад словаў «горадзіць», «абгароджаваць». А абгароджаваць, умацоўваць яго трэба было неабходна, бо рыцары нямецкага Тэўтонскага духоўнага ордэну (крыжакі) з суседніх Прусаў, якія ў XII і XIУ ст. рабілі набегі на землі Горадзенскага княства, часта на яго нападалі.Некалькі разоў Горадня была імі разбуравана й спалена. Але ў першай чвэрці XIУ ст. жыхары Горадні на чале з сваім старастам Давідам Горадзенскім пасьпяхова адбівалі напады крыжакоў. У палавіне XIУ ст.Горадзенскае княства ўвайшло ў склад Вялікага княства Літоўскага й Горадня была нейкі час сталіцай вялікага князя Вітаўта. Вітаўт збудаваў гатычны пяцівежавы Верхні замак і абкружыў яго магутным мурам. Замак гэты пазьней быў названы Старым.




Друкуецца з некаторымі скарачэньнямі, захоўваючы правапіс аўтара.

Пры Вітаўту Горадня стала важным палітычным і гандлёвым цэнтрам. Каля Верхняга замку Вітаўт збудаваў мураваны Ніжні замак. Замак злучаў пад'ёмны драўляны мост. Умацаваныя цэрквы й манастыры (Вялікі й Малы Каложанскі) дапаўнялі абаронны комплекс Горадні. Большая частка насельніцтва (рамесьнікі) жылі на Падоле ўздоўж Нёману. Гандлёвую плошчу, на якой у 1389 г. быў пабудаваны драўляны касьцёл, перасякалі дзьве асноўныя магістралі, якія йшлі ад Нёманскай пераправы на Вільню (вуліцы Вялікая й Віленская) й ад замкаў (Замкавая вуліца)—на Смаленск. У 1319 г. Горадня атрымала магдэбурскае права.



*Пячатка Горадні, 1540 г.*

Горадзенцы з вайскамі Вітаўта бралі ўдзел у Грунвальдзкай бітве ў 1410 г. Ад 1413 г. Горадня была павятовым горадам Троцкага ваяводзтва. У Горадні часта бываў кароль Ягайла. У ягонай і каралевы прысутнасьці Вітаўт у Горадні ў 1418 г. браў шлюб з сваёй трэцяй жонкай Юліяй.

Вялікі князь літоўскі й кароль польскі Казімер Ягайлавіч, прыехаўшы з Трокаў у Горадню цяжка хворым, памер тут 7 чэрвеня 1429 г. У 1469 г. на гандлёвай плошчы была пабудаваная ратуша, пасьля чаго плошча стала другім адміністрацыйным цэнтрам гораду. У гэтым часе былі пабудаваныя цэрквы: «Уваскрасенская, Міхайлаўская, Прачысьценская, Сямёнаўская, Тройцкая, Чэснага Крыжа. Часта наведвалі Горадню, едучы зь Вялікага княства Літоўскага ў Польшчу або прыехаўшчы на паляваньне ў Горадзенскую пушчу, Жыгімонт Стары й ягоны сын Жыгімонт Аўгуст, вялікі князь літоўскі й апошні кароль польскі з дынастыі Ягайлы.

Ад 1579 г. за часоў панаваньня караля Сьцяпана Баторага, для Горадні, у якой у ХУІ ст, было больш за 700 дамоў і каля 4 тысячаў жыхароў, пачалася эпоха роськвіту й палітычнага значэньня. Баторы ў Горадні вырашаў усе найбольш важныя дзяржаўныя справы. Ён перабудаваў Стары (Верхні) замак, але ягонай рэзыдэнцыяй быў пабудаваны ім палац, званы пазьней домам Бэймака. У гэтым палацы ён у 1586 г. й памёр. Часта бываў у Горадні й кароль Уладыслаў з дынастыі Вазаў. У 1581 г. у Горадні была заснаваная брацкая школа й друкарня, у якой друкаваліся кнігі на лацінскай і беларускай мовах.

У ХУІ—ХУІІ стст. Горадня сталася цэнтрам рамесьніцкай вытворчасьці. Тут было больш за 50 рамесьніцкіх цэхаў (прафэсыяў). З пашырэньнем каталіцкай экспансіі ў Беларусі у ХУІІ—ХУІІІ стст. у Горадні паўсталі шматлікія манаскія ордэны, была адчынена калегія езуітаў. Будаваліся ў барочным стылі касьцёлы і манастыры. У 1559-1618 гг. на мейсцы каралеўскай стайні былі пабудаваныя Бэрнардынскі касьцёл і манастыр. У 1634 -1642 гг. былі збудаваныя Брагіцкі касьцёл і манастыр. У 1635 г. на Занёманскім прадмесьці была пачатая будова Франьцішканскага касьцёла й манастыра, а ў 60-х гадах ХУІІІ ст. коштам смаленскага біскупа Франьцішка Ісакоўскага быў па-

будаваны найпрыгажэйшы ў Горадні барочны—пазьней названы фарным—касьцёл і манастыр, у якім мясьціліся калегія, аптэка й гаспадарчыя пабудовы.

Маскоўскі цар Аляксей Міхайлавіч, намагаючыся захапіць Беларусь і Украіну, у 1654 г. пачаў вайну з Рэчупаспалітай, і ягоныя войскі ў 1655 г. занялі і спалілі шматлюдную ўжо тады Горадню. У 1657 - 1661 гг. горад быў заняты швэдзкімі вайскамі. У Горадні кароль Ян II Сабескі ўрачыста зацьвердзіў Андрусаўскі трактат, які быў падпісаны ў 1667 г. Гэтым трактатам закончылася вайна Рэчыпаспалітай з Маскоўшчынай (1654-1667). Згодна з соймавай пастановай, прынятай у 1673 г. пры каралі Міхалу Карыбуце Вішнявецкім, кожны трэці чарговы сойм Рэчыпаспалітай быў скліканы ў Горадні. У 1678-1679 гг. адбыўся сойм Рэчыпаспалітай, на якім быў заключаны саюз з Маскоўшчынай, супраць Турэччыны. У Горадні ў канцы XУIII— пачатку XIX ст. былі напісаныя на лацінскай мове бэрнардынскімі манахамі Л.Дулевічам, Б.Мажэйком, Ю. Мышкоўскім, Ф.Пшыленскім, Б.Станкевічам, І. Сьціпейкам і іншымі ведамыя філёзафічныя трактаты.

Кароль Рэчыпаспалітай Аўгуст Саксонскі ў лістападзе 1705 г. прыехаў у Горадню, каб асабіста спаткацца з расейскім царом Пятром І, сваім саюзьнікам у часе Паўночнай вайны, дзеля нарады зь ім аб мэтадах ваенных дзеяньняў супраць прыхільнікаў караля Станіслава Ляшчынскага, свайго праціўніка. Галоўны праціўнік Аўгуста, швэдзкі кароль Карл XII з сваім войскам 15 студзеня 1706 г. падыйшоў пад муры Горадні, але ўбачыўшы, што ня зможа здабыць добра ўмацаваных пазыцыяў гораду, адыйшоў да Вільні. І толькі ў лютым 1708 г., паставіўшы свае гарматы на старажытнай Барысаглебскай (Каложанскай) царкве, якая стаіць на высокім узгор'і над Нёманам, здабыў Горадню амаль без супраціву. У сярэдзіне ХУIII ст. кароль Рэчыпаспалітай Аўгуст III на месцы разбураных Ніжняга замку й Дому караля з ХУІ ст. збудаваў новы замак, у якім адбываліся соймы Рэчыпаспалітай і пражывалі каралі падчас свайго побыту ў Горадні.

У другой палавіне ХУIII ст. горадзенскі стараста граф Антон Тызэнгауз заснаваў каля Горадні прамысловыя прадпрыемствы—мануфактурныя хвабрыкі: палатняную, суконную, шоўкавую, панчошную, карэтную, ручной агнястрэльнай зброі й іншыя.



*Антон Тызэнгауз*

Тызэнгауз пабудаваў на Гарадніцы, найпрыгажэйшай частцы Горадні. для наемных хвабрычных майстраў 20 крытых чарапіцаю дамоў з плоскімі барочнымі фасадамі—першую ў Беларусі комплексную аднатыпную забудову, званую й сёньня домам Тызэнгаўза. Ім былі адчыненыя школы: бухальтэрыйная, вэтэрынарная, якая пазьней была ператворана ў мэдычную, і кадэцкі корпус. Ён адкрыў першую ў Беларусі і ў Рэчыпаспалітай балетную, будаўнічую і каморніц-кую школы, а таксама бібліятэку,

музэй гісторыі прыроды, батанічны сад, тэатр.

17 чэрвеня 1793 г. у Горадні быў скліканы апошні сойм Рэчыпаспалітай, званы «нямым», які зацьвердзіў другі падзел Рэчыпаспалітай. У часе паўстаньня 1794 г. Горадня была ў жніўні гэтага году занята войскам Касьцюшкі, 25 лістапада 1795 г. ў Новым замку ў Горадні апошні кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі падпісаў акт сваёй абдыкацыі.

Пасьля трэйцяга падзелу Рэчыпаспалітай у 1795 г. Горадня апынулася ў складзе Расейскай імпэрыі. З 1796 г.Горадня была павятовым горадам Слонімскае, а з 1797 г. Літоўскае губэрні. З 1801 г. горад стаўся цэнтрам Гораденскае губэрні. У часе вайны 1812 г. з чэрвеня па сьнежань горад быў заняты францускімі вайскамі. У 1862 г. цераз Горадню была пракладзена чыгуначная лінія зь Пецярбургу ў Варшаву.

У Горадзенскім павеце нарадзіўся Кастусь Каліноўскі. Падчас паўстаньня 1863 г. ён з Валерым Урублеўскім утварыў у Горадні рэвалюцыйны камітэт, які ўзначаліў барацьбу ў заходняй частцы Беларусі. Паводля перапісу насельніцтва ў 1879 г. у Горадні было 46 019 жыхароў,зь якіх больш паловы былі пісьменныя. У гэтым часе ў Горадні было 9 навучальных установаў, бібліятэка, 2 тэатры, 3 кнігарні, 73 прамысловыя прадпрыемствы, зь якіх найвялікшым была заснаваная ў 1829 г. тытунёвая хвабрыка Шарашэўскага.

У першую сусьветную вайну Горадня была акупавана ў 1915 г. нямецкімі войскамі, 27 красавіка 1919 г. Горадню занялі польскія войскі. З абвешчаньнем Беларускай Народнай Рэспублікі палкоўнік Канстантын Езавітаў і капітан Мікола Дзямідаў у Горадні ў 1919-1920 гг. арганізавалі 1-шы Беларускі полк. Капітан Дзямідаў быў нейкі час ваенным камендантам Горадні. 1 ліпеня 1920 г. Горадню занялі бальшавіцкія войскі. Пасьля польска-бальшавіцкай вайны 1920 г. горад апынуўся пад Польшчай. Польскія ўлады ўлучылі Горадню і частку Горадзеншчыны ў склад створанага імі Беластоцкага ваяводзтва. У міжваенным пэрыядзе Горадня была сядзібай епархіяльнага архірэя Горадняска-Наваградзкай япархіі Праваслаўнае Царквы ў Польшчы. У Горадні дзейнічалі да часу іх ліквідацыі польскімі ўладамі павятовыя камітэты Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і Таварыства Беларускай Школы. Пасьля заняцьця Чырвонай арміяй у верасьні 1939г. Заходняй Беларусі й прылучэньня яе савецкімі ўладамі да тагачаснай БССР, Горадня была ў складзе Беластоцкай вобласьці.

У Другую сусьветную вайну нямецкія акупанты падзялілі Беларусь: Палесьсе прылучылі да Райхскамісарыяту Украіны, Ашмянчыну — да Генэральнага Камісарыяту Летувы, а Горадзеншчыну й Беласточчыну да Усходніх Прусаў г.зн.да свайго райху. Пасьля вайны савецкія ўлады ўсю Беласточчыну з Падляшам (Бельск, Белавежа, Гайнаўка) й заходнюю частку Горадзеншчыны (Аўгустоўшчына, Сакольшчына) адлучылі ад Беларусі й аддалі сатэлітнай Польшчы. Сёньня дзяржаўная мяжа паміж Беларусяй і Польшчай праходзіць ў адлегласьці усяго толькі каля 25 кіламэтраў на захад ад Горадні. Польскія камуністычныя ўлады праводзілі на Беласточчыне з далучанай часткай Горадзеншчыны палітыку здушаваньня беларускай культуры. Яны ліквідавалі ў беларусаў школьніцтва й культурнаасьветныя, мастацкія ды навуковыя ўстановы. У 1719 г. зьліквідавалі мастацкі эстрадны гурток «Лявоніха», а цераз пару гадоў—Беларускі Этнаграфічны музэй у Белавежы. Ягоныя экспанаты перадалі поль-

скаму музэю ў Цеханове. З усходняй часткі Горадзеншчыны,часткі Віленшчыны (Ашмяншчыны) і Навградчыны савецкімі ўладамі была ў 1944 г. створана Горадзенская воб. з цэнтрам у Горадні. Яна займае плошчу 25 тысяч кв.км.

З помнікаў старажытнай архітэктуры да нашых часоў часткова захаваліся Барысаглебская (Каложанская) і Прыдворная княская цэрквы. Галоўная маса перакрыцьця Каложанскай Барысаглебскай царквы была зьнішчана ў 1789 г. ў часе аблогі гораду войскам швэдзкага караля Карла XII. Але найвялікшая катастрофа здарылася ў 1853 г., калі ў часе вясеньняга разводзьдзя раптоўна абсунуўся бераг Нёману і зь ім разам звалілася ўся паўдзённая сьцяна царквы й частка заходняй, зьнішчыўшы рэшткі першапачатковага перакрыцьця. У руінах ляжыць Прыдворная княская царква, першая каменная пабудова ў Горадні. Добра захаваліся пазьней пабудаваныя выдатныя помнікі царкоўнай архітэктуры—касьцёлы: Бэрнардынскі, Брыгіцкі, Фарны (б.Езуіцкі) і Франьцішканскі, Стары й Новы замкі. У перабудаваным Сьцяпанам Баторым Старым (Верхнім) замку знаходзіцца Горадзенскі гістарычна-археалягічны музэй. Пасьля перабудовы Новага замку ў 1952 г. у ім доўгі час разьмяшчаўся Горадзенскі абком КПБ.

Апрача Горадні ў Горадзенскай вобласьці налічваецца 9 гарадоў. Найбольш ведамыя й буйнешыя зь іх—Ліда, Слонім, Ваўкавыск і Наваградак. Як і Горадня яны —гарады старажытныя й іхняя гістарычныя доля й нядоля падобныя.



*Касьцёл манастыра бернардынцаў.*



*Касьцёл манастыра брыгітак. 1634-1642*

# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

## Міхась Ткачоў

Лявон Калядзінскі

*«Краінай замкаў называлі сучасьнікі Беларусь.Створаныя руплівай, мазольнай працай нашага народу,яны адлюстроўваюць яго гістарычнае мінулае, патрыятызм і гераічную барацьбу ў абарону роднай зямлі ...»*

Так пачынаў сваю першую кніжку, выдадзеную роўна 15 гадоў назад, Міхась Ткачоў. Здаецца, яшчэ зусім нядаўна гэта было. Як было і тое, што стаялі мы роўна дзесяць гадоў таму назад раніцаю ля маста праз роў, што бараніў Нясьвіжскі замак.

Быў туман, блакіт верасьнёўскага неба, золата клёнаў. І здавалася, што дзяцька Міхась патрубіць зараз у рог. і варатавыя замка адчыняць перад намі браму. А потым мы прымем удзел у спаборніцтве сярод стралкоў гарнізона. І калі вока вострае, а рука яшчэ моцная, то мо і пашанцуе узяць за першае мейсца мушкет, за другое— шаблю, а за трэцяе—дзіду. І ніхто сабе, а сама княгіня паднясе табе поўны кубак бурштынавага пітва, што потым кропелькамі будзе вісець на тваіх вусах, граючы нібы здрыжнічкі усёй вясёлкаю колеру. А можа, калі адбудзецца навала, ці то з боку крымчакоў, ці то з боку казакаў, ці то з боку швэдаў або маскоўцаў, пусьцімся мы разам з усімі на замкавыя муры. І паколькі няма ў нас сваёй зброі, згодна правілаў таго часу, возьмем у прыпол кашулі пяць камянёў велічынёю з кулак і станем поруч з абаронцамі замка.

Менавіта так маляўніча ўяўляецца жыцьцё таго часу сярэднявечнага горада, або замка, калі чытаешь яго апошнюю кнігу «Людзі і замкі», што выйшла летась.

Але каб данесьці гэта да чытача, Міхасю Ткачову трэба было абыйсьці ў вандроўках усю Беларусь, пакапаць рыдлёўкаю, ператрэсьці горы архіўных зьвестак. (Гл. III бачынку вокладкі). А потым, калі на сьвет зьяўляўся стос навуковых аркушаў, надаць усяму гэтаму яшчэ і лірыку беларускай душы, каб дайшло гэта да сэрца кожнага, каму дорага мінулае Бацькаўшчыны.

Гэта быў цудоўны чалавек, вялікі вучоны, няўрымсьлівы дасьледчык, глыбокі знаўца чалавечай душы.

31 кастрычніка споўніцца год зь ягонай прадчаснай сьмерці.

*Улічваючы заслугі Міхася Ткачова перад беларускім народам, Цэнтральная Рада БСДГ аб'явіла збор фінансавых сродкаў на будаўніцтва помніка М.Ткачову.*

*Просьба, сродкі пералічаць на рахунак 700810 ў Завадзкім аддзяленьні АК Белпрамбудбанка, код 153001338, Цэнтральная Рада БСДГ, «На помнік М.Ткачову» або на рэдакцыю часопіса «Полацак»*



# Блакіт Леаніда Шчамялёва

Сьвятлана Белая

Восень...

Яе надыход адчуваеш адразу.

Па няўлоўнай празрыстасьці паветра.

Па ціхаму разьвітаньню з Бацькаўшчынай мітусьлівых птушак.

Па россыпу цяжкіх жалудоў на халоднай ужо зямлі..

Нешта настальгічна-журботнае зьяўляецца ў прыродзе, нягледзячы на багацьце залатога лісьця, шчодрасьць палеткаў, разнакалёрнасьць краскаў.

Восень на палотнах народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва таксама адчуваецца адразу. Нават на такіх казалася-б летніх зь першага погляду краявідах як «Восень». (*Гл. разварот часопіса*) Восень у Леаніда Шчамялёва з задуменнымі дрэвамі, зь нізкімі аблокамі, зь якіх вось-вось, здаецца, пальецца бясконцы дождж, і яшчэ з над звычайным блакітам неба, па якому адразу і пазнаеш Шчамялёва. Гэты блакітны колер, можна сказаць, ёсьць аснова сьветапогляду мастака.

Памятаю, калі я ўпершыню трапіла ў ягоную менскую майстэрню, я была зачаравана менавіта «шчамялёўскім блакітам». Асьвечаны быццам-бы знутры залатымі праменьнямі, ён пастаянна мяняўся. Вось каля вясковай хаты, на прыпеку ён пачынае таяць разам зь першым сьнегам, ператвараючыся ў празрысты ручэй, колеру неба ў сонечны дзень. Вунь на ледзь прыкметнай сьцяжынцы сьлядоў, якія пакідае дзяўчына, што сьпяшаецца да палонкі, блакітная фарба набліжаецца да колеру першых чэрвеньскіх буякоў. А блакіт вады халоднай рэчкі зусім іншы. У ім ёсьць нешта ад далёкай касмічнай прасторы.

—Кожны мастак бачыць сусьвет ў сваім колеры. Мне ён бачыцца вось такім сьветлым,—сказаў мастак і, быццам-бы запрашаючы мяне адгадаць колер ягоных мараў, правёў рукой ў паветры.

Паветра, як і пакой ягонай майстэрні, было блакітным. Такой блакітнай выглядае, пэўна, нашая Зямля з зорнай Усяленнай. Відаць, у гэтым незямным, касмічным блакіце і заключаецца сакрэт мастака Леаніда Шчамялёва. Гэты колер прысутнічае ва ўсіх ягоных творах, і псыхалёгічных карцінах, прысьвечаных падзеям другой сусьветнай вайны «Люты 1942», «Цяжкія гады», «Трывожнае лета 1941 году», і ў лірыка-эпічных цыклях палотнаў «Край мой Міншчына», «Ільны івянецкія», і ў рамантычных партрэтах сучасьнікаў «Маладыя», «Дочкі», мастакоў В.Цьвіркі, Г.Вашчанкі, М.Чэпіка, і ў ягоных паэтычных краявідах «Вязынка», «Студзень у Менску», «У канцы студзеня», «Зіма ў Ракаве», «Напрадвесьні» і многіх-многіх іншых творах.

Адзін зь ягоных зімовых пэйзажаў я прывезла з Бацькаўшчыны ў Кліўленд. Маленькая вёска, засыпаная блакітным сьнегам, блакітнае неба, у якім купаецца адыходзячае на вячэрні сон сонца, і нізкае ваконца ў хатцы, зь якога струменіць блакітнае сьвятло. Гэтае сьвятло ідзе зь Беларусі й ад яго становіцца «блакітней», а значыць і сьвятлей на душы нават ў далёкай амэрыканскай зямлі...

У гэтым годзе Леаніду Шчамялёву споўнілася 70 гадоў. Дай Божа, каб сьвятло душы мастака запаліла блакітам ягоныя новыя творы, якіх заўсёды чакаюць прыхільнікі мастацтва.



*Мастак Леанід Шчамілёў і ягоны твор «Янка Купала», 1983 г.*

# Масею Сяднёву—80 год

1 верасьня паэту Масею Сяднёву споўнілася 80 гадоў. Колькі шляхоў пройдзена за гэты век! Колькі песьняў складзена! І хаця маладосць паэта прыпала на ваенныя часы, ён амаль абыйшоў ваенную тэму ў сваёй творчасьці. Перагартайце ягоныя томікі паэзіі, і вы пераважна знойдзеце там гімны прыгажосьці прыродзе, свабодзе, шчасьцю. Вы сустрэніце развагі над жыцьцём і сьмерцю, каханьнем і здрадай. Вы будзеце любавацца заходамі сонца, п'янячымі прыбоямі мора і вечным рухам вады. І ніколі не пабачыце сьлядоў руйінаў-папялішчаў. Аптымістычнай асобе Масея Сяднёва, відаць, стан вайны ненатуральны. Больш таго, ён супрацьлеглы яго жыцьцёсцьвярджальнай натуры. Можа ў гэтай бязьмернай любові да прыгажосьці жыцьця і хаваецца сакрэт даўгавечнасьці вершаў паэта.

Як сказаў аднойчы паэт Пятро Глебка: «Сяднёў—гэта вечнасьць». Другі-ж, пачынаючы паэт Уладзімір Пучынскі прысьвяціў Сяднёву верш,у якім выказаў ня толькі сваю павагу да юбіляра, але і паспрабаваў вызначыць месца паэта ў гісторыі беларускай літаратуры.

### Як малітва

Ён ня быў сьвятаром
народ не сьпяшаў да яго на малебны
быў паэтам і вершы
нібыта малітва вера
жыцьцё ратавала
стамлёныя вусны шапталі
чарговы радочак галоўнага верша
стане ратункам
і людзі прыйдуць да паэта
малітву пакутаў пачуць
ад нягодаў ратуе верш
прашаптаны ў надзеі жыцьце
таемна ўлівае пазнаньне й веру



*Масей Сяднёў у Менску, 1992 г.*

# Што, калі табе 80 год?

80 год — гэта ў нейкім сэнсе рубеж, вадараздзел, што дзеліць тваё жыццё нібы на дзве палавіны. Адна з іх ужо ў мінулым, другая — цалкам у будучыні. 80 год — гэта пачатак новага этапу — этапу больш інтэнсіўнага духоўнага жыцця. У кожным разе гэта не спад, а час сталеньня, гэта твая дарасласьць, гэта час эстэтычна-філасофскага асэнсаваньня свету.

Ды тут няма аніякай статыкі. Ёсць творча-актыўнае ўспрыняцьцё рэальнасьці.

Як доўга будзе трываць твая другая палавіна, твой новы этап, гэтак доўга будзе трываць тваё захапленьне ўсім існым.

М. Сяднёў

1.9.1993
Глен Коў

# ⁂ Жыцьцяпіс Масея Сяднёва ⁂

**1913** Нарадзіўся 1 верасьня ў вёсцы Мокрае Машаўской воласьці Клімавіцкага уезда, Магілёўскай губерні. Бацькі —Ларыён і Маланьня—сяляне.

**1926** Скончыў трохклясную школу ў Мокрым

**1926-1927** Скончыў чацьвёрты кляс у вёсцы Вялікі Бор Касьцюковіцкага раёну

**1927-30** Скончыў сямігодку ў мястэчку Самáтэвічы Касьцюковіцкага раёну.

**1930-31** Вучыўся ў пэдтэхнікуме ў Мсьціслаўлі Касьцюковіцкага раёну

**1931-32** Вучыўся ў пэдтэхнікуме ў Менску.

**1932-33** Настаўнічаў у двухкамплектнай школе ў в.Кавычывы Касьцюковіцкага р-ну.

**1933** Паступіў у Вышэйшы пэдагагічны інстытут (ВПІ) ў Менску. Пачалі зьяўляцца вершы ў газэтах: «Чырвоная зьмена», «Савецкая Беларусь», «Літаратура і Мастацтва», у часопісах: «Полымя рэвалюцыі» (цяперашняе «Полымя»), «Беларуская работніца і сялянка», «Паляўнічы Беларусі», у альманаху «Аднагодкі».

**1936** Арыштаваны органамі НКВД. Абвінавачваўся ў «буржуазным нацыяналізме». Засуджаны на 6 год. Тэрмін адбываў на Калыме.

**1941** Прывезены ў Менск на перасуд. Вызвалены ў выніку ваенных дзеяньняў.

**1941-43** Пісар у Макранскай воласьці. Дырэктар сямігадовай школы ў Мокрым. Праца з бацькам на гаспадарцы.

**1943-45** Карэктар у Беластоцкай газ. «Новая дарога». Вершы й артыкулы ў газэце.

**1944-45** Варшава—Бэрлін—Прага—Баварыя.

**1945-50** Лягеры для перамешчаных асобаў (ДП): Рэгенсбург-Міхелсдорф—Бакнанг. Настаўнік у беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. Паэтычныя зборнікі «У акіяне ночы» (Рэгенсзбург, 1947), «Спадзяваньні» (Мюнхен, 1948).

1950-59 Злучаныя Штаты Амэрыкі. Жанімства з Вольгай Пазьняк. З гэтага сужэнства нарадзіліся дзеці: Таня, Ірэна, Уладзімер. Восем год працы на фабрыцы , Выхад зборніка «Ля ціхай брамы» (Нью Ёрк, 1955 г.). Творы ў «Конаднях», «Сакавіку» , у газэтах «Бацькаўшчына», «Беларускае слова», у часопісе «Шыпшына».

**1959-67** Выкладчык (расейская мова і літаратура) ва ўнівэрсытэце Індыяна (штат Індыяна, Блюмінгтон), Атрыманьне пры гэтым унівэрсытэце дыплёма магістра (МА).

**1967-83** Праца на радыё «Свабода» ў Мюнхене. Кніга «Патушаныя зоры», (Нью Ёрк—Мюнхен, 1975).

**1983** На пэнсіі. Выйшлі кнігі: «Ачышчэньне агнём» (Глен Коўн—Нью Ёрк, 1985), «Раман Корзюк» (Нью Ёрк—Мюнхэн, 1985), «І той дзень надыйшоў (Глен Коўн—Нью Ёрк, 1987), «А часу больш, чым вечнасьць (Глен Коўн—Нью Ёрк, 1989). Выхад кнігі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» пад назовам «Патушаныя зоры» (Менск, 1992 ) Пераклад на расейскую мову рамана «І той дзень надыйшоў» (Нёман»' 1991). Выбранае па-расейску «Очищение огнем» (ЗША, 1989), Пераклады па-расейску ў часопісе «Новый журнал», папольску ў часопісе «Культура» (Парыж), у газеце «Глос конфэдэрацыі» (Лёндан), паукраінску — у шматлікіх выданьнях. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» падрыхтаваныя да друку кнігі: «Масеева кніга» і «Як памяць на вуснах». Падрыхтавана да друку п’еса «Ускрослыя. Цуд на плошчы Свабоды ў Менску».

# Вечная няпрымірнасьць

Масей Сяднёў



Масей Сяднёў. Глен Коў, каля акіяна. 1991 г.

Стаю перад акіянам і дзіўлюся, зь якой зацятасьцяй і пасьлядоўнасьцяй наступае ён на зямлю, б'е ў ейныя грудзі. Уздыбленыя хвалі адна за аднэй разьярана кідаюцца на бераг, быццам хочаць узяць яго прыступам, ды зьнясіленыя непадатнай зямлёй, пераможаныя, паміраюць на тым беразе, разьліўшыся ўшырыню празрыстай пенай. Але на гэта не зважае акіян: коціць яшчэ больш магутныя хвалі, і тыя ў сваёй разьюшанасьці паўстаюць грознай сьцяной—зь берагу на яе страшна глядзець— і ўсё толькі для таго, каб дасягнуўшы берагу, памерці на ім, як памерлі іхныя папярэдніцы.

Зямля спакойна прыймае разьюшанасьць хваль, упэўненая ў сваёй неперраможнасьці. Абураны такім спакоем зямлі, акіян ня можа зьмірыцца зь ёй і ўсё больш уськіпае гневам да яе.

А калісьці-ж воды акіяна пакрывалі ўсю паверхню зямлі, й яна па сутнасьці была дном акіяна. Памятаеце радкі паэта:

*Сьвет белы, як туманам, дождж замгліў,*
*апошні дзень, нібы тапелец кануў,*
*Па ўсёй паверхні пераможанай зямлі*
*пайшлі разгневаныя акіяны.*

Але зямля нядоўга трымала на сваіх грудзёх гэтыя воды: хапіла ёй аднаго вызваленчага магутнага ўздыху,каб усе акіяны, стрэсеныя ёю з свайго лона, занялі мейсца, якое яны маюць і сёньня.

Толькі ня могуць супакоіцца акіяны, хочаць зноў прарвацца на зямлю: б'юць у ейныя грудзі, лютуюць, дыбяцца, пырскаюць , шумяць, грымяць.

А зямля?

Гэта толькі для яе дзівосная музыка.

1993, Глен Коў.

# Мудрасьць таленту

## *(Да 80-годзьдзя Масея Сяднёва)*

Алесь Мемус

Роўна 10 год таму, як паэт напісаў:

*Мне 70. Хацеў бы я,*
*каб гэта быў не я.*
*Не я, а іншы хтосьці,*
*а я ўсяго —пабочным госьцем.*
*Няхай усе прамовы і ўсе тосты*
*прымаў бы на сябе той «хтосьці».*
*Я толькі прывітаў бы Ягамосьцю,*
*як і належыцца запоршанаму госьцю.*
*З усьмешкаю—дыпламатычны ход—*
*падцягваў бы яму і я: «Сто год».*

Гэты маленькі шэдэўр паэта пры ўсёй яго зьнешняй гульлівай слоўнай лёгкасьці, зьмясьціў у сабе глыбокі сарказм высьпелай мудрасьці,якая вачамі затоенага болю прасьветлена назірае на спрадвечную жыцьцёвую мітусьню, прымаючы яе недарэчнаратавальны аптымізм, спасьцігшы глыбокую адказнасьць душы за неспадзявана страчаные боскія дары.

Гэта было ў 70, але жыцьцё на цэлых 10 год паглыбіўшы, а разам з тым узвысіўшы сьветаспасьціжэньне нашага паэта і сёньня не астудзіла яго шырокую душу зь яе ўтрапеным пошукам вышэйшае ісьціны, зь яе прасьветленым «Сумам па духоўным Пантэоне», пакінутай і духоўна здабытай Бацькаўшчыны.

Выйшаўшая нядаўна анталёгія паэзіі беларускай эміграцыі «Туга па радзіме» наблізіла да нас разам зь легендарнай Натальляй Арсеньневай і другую вельмі значную постаць нашага паэтычнага замежжаасобу Масея Сяднёва, паэтычныя здабыткі якога мы толькі пачынаем спасьцігаць.

Захацелася, хоць-бы бегам, прайсьці шляхам яго душы, дзе скразьняком гучыць, і гучыць арыгінальна і моцна, глыбокае ракатаньне духу, складзенае з радасьці і суму, сьвятла і ценяў,ствральнага болю Памяці і нязбыўнае прагі пакласьці здабытае на алтар здабытай болем душы Радзімы. Мо гэтая заглыбленасьць ў свой боль і стварае сапраўднага паэта,бо нішто ня можа высекчы іскру з душы, як спазнаньне свайго праз спазнанае і данесенае да нас паэтам.

Але самазаглыбленасьць душы не адварочвае яе ад сьвету. Не, яна толькі абвастрае адчуваньне яго хараства праз пакуту і неадольную прагу гармоніі ў сабе. Паэт рана спасьціг, што:

*Сьвет разнастайны і багаты. Многа*
*ў ім і зьяў, і фарбаў, і прыкмет.*
*Але ў блісканьні сонца агнявога*
*адзінствам хараства чаруе сьвет.*
*(Адзінства хараства).*

Вось дзе ісьціна, якая гарыць у сасмаглай душы—адчуваньне еднасьці са сьветам, бо зьнявечная душа, ад Бога-ж—частка сусьветнае гармоніі. Дык дзе-ж адбылася страта? Дзе абарвана боская ніць? І паэт вяртаецца ў дзяцінства, у родны кут.

*Што коліць жыло і што пела,*
*яшчэ раз ты, памяць крані!*
*Прайшлі, як дажджы адзьвінелі,*
*маленства глыбокія дні.*

*Прайшлі над маёй галавою,*
*як сонца ідзе па вясьне...*
*(Маленства)*

І ў прасьветленай здагадцы паэт усклікае:

*Нявіннасьць, нявіннасьць, вярніся!*
*Вярніся маленства маё!*

Але нішто незваротна. І нельга выкрэсь-

ліць з памяці гады рэпрэсыяў і глуму, і наплывае часіна болю і гневу:

*Хадзіў я ў пустыні і ціхім і сумным*
*і злосна няволю сваю праклінаў*
*Здавалася лішнім, зусім неразумным*
*усё, што на сьвеце любіў я і знаў.*

*І сам я сабе быў не рады, і мары*
*мае маладосьці, і сноў маіх боль*
*былі мне цяпер-нібы зманлівасьць чараў,*
*нібы весялосьці начной алкаголь.*

Адчай, як жвірам перасыпаны водбліскамі былога шчасьця, зьвініць адкрыцьцём поўным глыбокага трагізму:

*Не хочацца жыць, а памерці шчэ болей,*
*жывеш на зямлі і не знаеш зачым.*
*Чаму-ж не хапае адвагі і волі*
*сябе задушыць у гушчары лясным?*
*(Хадзіў я ў пустыні)*

Пакута гартуе душу, але як зморк атуляе часам яе згасаючыя вуглі, калі зьнікае вера, калі здаецца ўся яснасьць жыцьця безнадзейна зьляцела з рук:

*Чырвоны ліст жыцьця апаў,*
*хістаецца, як цень шкілет.*
*Прайшоў пачуцьцяў маіх пал.*
*зьнік вобразаў таемны сьвет...*

*...Парою толькі ў цяжкім сьне,*
*як дум маркотных не зглушу,*
*ён бліскавіцай мільгане,.*
*параніць зьмерлую душу....*
*(Жыцьцё)*

Але сьвятло, закладзенае ў чалавеку творцам-Богам, неадольнае, занадта пахкімі пластамі залегла яно ў сэрцы каб адцурацца яго назаўжды.

*Я сёньня поўны радасьцяй. Баюся,*
*што нарастаючы яна ў цішы*
*пральецца смуткам нечаканым*
*за край душы.*
*(Радасьць)*

**Учытываючыся** ў кантэкст паэтынае споведзі Масея Сяднёва,адчуваючы душою глыбіню драматызму яе жыцьцёвае асновы, увесь час ловіш сябе на тым, што праз усе нягоды і страты вяла яго сьветлая рука глыбіннага аптымізму, над якім, як паходня, сьвяцілася зорка таленту.

*Грэшныя ў непаслухмянстве душы,*
*не хацелі-б мы зямлёю тлець:*
*падаем, рукамі узмахнуўшы,*
*каб усё-ткі ў неба ўзьляцець*
*(Прыглядаюся, каб не разьбіцца...)*

Зямная мудрасьць паэта стварае дзіўны па нечаканасьці вобраз Анёла, які зачаблены зямною прыгажосьцю нібы «выстаўляе свае рукі, каб мы яго адтуль (зь неба) зьнялі»:

*І ён сумуе сумам чалавечым,*
*і, здэцца, не збаяўся-б Ён ані*
*плашмя ўдарыцца абы не вечна*
*зіхцець у золкай вышыні.*
*(Анёл)*

Гэта сапраўдны шэдэўр, шкадую аб немагчымасьці зьмясьціць яго тут цалком, але адсылаю шаноўга чытача да «Анёла», каб адчуць рэдкую дасканаласьць твора, які дэманструе непаўторныя якасьці нашага слова, калі зь ім працуе сапраўдны майстар.

Нібы акрылены мудрасьцю таленту, як карабель, які нясе лёс у зьменлівую даль, паэт піша:

*Занадта усё да сэрца я прымаў—*
*нішто не зьменіцца ні заўтра і ніколі.*
*Дарэмна ў сьвеце маіх зманлівых уяў*
*Я неба маляваў у змрочны колер*
*І далей:*
*Без ветразяў мае стаялі караблі—*
*уздыхі іхнія яны вятром раздалі.*
*(Занадта усё)*

Але паэзія, як мора. Прылівы і адлівы— жыцьцё зьменлівае душы. І не зглушыць навекі былы боль, які ў хвіліны сардэчнага дысанансу вяртаецца з падвоенаю сілаю. І

тады паэт нібы помсьціць сабе за паўнату жыцьця,за радасьць творчасьці—там,дзе гармонія нібы склала свае зьнясіленыя крылы.

Ён зьвяртае свой боль да сястры:

*Сястра мая, даўно цябе не бачыў—*
*ад самага крывавага жніў'я.*
*Балюча мне за ўсе мае няўдачы,*
*за ўсе грахі, што аплаціў не я.*

*Адно другога ўсё трагічней,*
*і стршана — гора без турбот.*
*збываў я песьняю лірычнай,*
*замест каб стаць на эшафот.*
*(Сястры)*

Яго мучыць заняпад духоўнасьці ў сьвеце, адстароненасьць людзей ад паэзіі, ад патрэбы ў ёй:

*У сьвеце Слова перастала*
*быць словам Божым адкрыцьця.*
*і далей:*
*...у слова залатой аснове*
*зьвіла сабе гняздо мана*
*(Малітва)*

Але доля паэта нязбыўная, і ён разумее, што адзінае, што ўжо назаўсёды і да канца—

*Як толькі ў вершах сум свой спавядаць—*
*нічога болей мне не засталося.*
*(Не дасягнуць)*

Усё часьцей трывожыць пачуцьцё непазьбежнага разьвітаньня і паэт з глыбокім сумам, але і з пакорлівай гатоўнасьцю зьдзейсьненага піша:

*...я ведаю, душа мая*
*не трапіць, грэшная у царства раю.*

І далей, зьвяртаючыся да Бога:

*...Я ведаю, што не захочаш Ты*
*яе бяздомную прывеціць.*

*Ды, грэшная, наколькі сіл стае,*
*яна ўсё будзе у Тваёй арбіце.*
*І вечна ў харомы сьветлыя Твае,*
*як матылёк, яна ўсё будзе біцца*
*(Грэшная душа).*

Нібы ўглядаючыся ў чалавечы лёс паэт з болем пазірае на постаць укрыжаванага Хрыста:

*А Ён, як быццам нейкі Найміт,*
*расьпяты на крыжы праз цэлыя сталецьці*
*усё крывавіцца прад намі.*
*і далей:*
*Прыйшоў я да Цябе сягоньня*
*не дакранацца ран Тваіх рукамі,*
*а ціха цалаваць Твае далоні,*
*прыбітыя наскорзь цьвікамі.*
*(Расьпяты Хрыстос).*

—Што гэта? Непазьбежане прымірэньне мудрасьці? А можа вышэйшае, асьветленае пакутамі душы спасьціжэньне лёсу Айчыны?

*Лячыўся ад Яе, як толькі мог,*
*Праз сон яе не раз я клікаў,*
*Яна і сёньня дзесь у тайнікох*
*ляжыць пакутаю вялікай.*
*(Айчына)*

Я закрываю том, на якім быццам укрыжаваны надпіс «Туга па радзміе», які данёс да нас, хай толькі ў адноснай паўнаце адбітак жыцьцёвай і творчай гісторыі паэта Сяднёва. Закрыў і думаю: Хіба дарэмны быў іх Ісход? Хіба-ж мы, застаючыся, на сваёй Зямлі, наблізіліся да яе бліжэй?

Хацелася-б сьветла ўгледзецца ў лёсы і здабыткі тых, да каго належыць і Масей Сяднёў— паэт і чалавек, хацелася-б каб іх прасьветлены погляд збоку асьвятляў і нашыя блізарукія душы, бо нам разам ісьці да Яе адной, якая належыць усім нам.

*Мне 70. Хацеў бы я,*
*каб гэта быў не я.*
*Не я, а іншы хтосьці...*

Але-ж гэта Вы, шаноўны наш Паэт. І Вашыя ўжо 80, і цяжар, але і багацьце.

Мы-ж зычым (хай будзе зноў) —дыпляматыны ход «Сто год».

# Не і так

Музыка Галіны Смоляк

Словы Масея Сяднёва

1. Я нясмела ў яе і засмучана запытаў, ці кахаеш мяне? Яна кінула ў вочы балючае ганарліва: не! Ой, не! Вось бяда якая: я хаджу, ўздыхаю, толькі не шанцуе мне. Як ні запытаю, ці мяне кахае — усё яна гаворыць: не! Ой, не! // Ды сама гаворыць: так! Вось так!

Я нясьмела ў яе і засмучана
Запытаў, ці кахаеш мяне?
Яна кінула ў вочы балючае,
Ганарлівае: Не! Ой, не!
Прыпеў: Вось, бяда якая:
Я хаджу, уздыхаю,
Толькі не шанцуе мне.
Як ні запытаю,
Ці мяне кахае—
Усё яна гаворыць: Не! Ой, не!

2. Бедаваў,гараваў па ёй колькі я!
Колькі кветак насіў па вясьне!
Запытаўся яшчэ ў яе, колкае,
Тое самае: Не! Ой, не!
Прыпеў:

3.Стаў хадзіць танцаваць на зарэчча я—
Час ляціць, завірухай імкне.
Зноў спытаўся ў яе, прымірэнчае:
—Я не ведаю...не. Усё-ж не!
Прыпеў:

4.Стаў хадзіць да другое і ліпнуць я
Весялюся, сьпяваю, лайдак
Вось тады са сьлязьмі і ўсхліпамі
Адказала мне: Так! Вось так!
Прыпеў:Болей не ўздыхаю.
А хаджу, сьпяваю,
Весялюся, бы лайдак.
Болей не пытаю,
Ці мяне кахае,
Ды сама гаворыць:Так! Вось так

# Із агню ды ў полымя



Міхась Кавыль



Ад Івана Тарана, які прыйшоў на начную зьмену на НП, Язэп даведаўся, што разьбілі немцы адну гаўбіцу, пабілі шмат «бойціў, і тры дзіўчыны», якія «выдурнялыся»— тінцувалы». З разьведчыкаў ніхто не пастрадаў. Грубнікаў пасьял ўсяго гэтага хадзіў, як прыгаломшаны. Да Язэпа зьмяніў адносіны: ня прыдзіраўся, а калі выклікалі ў штаб, браў яго з сабою за ахоўніка.

Увечары 15 травеня 1942 году Лабачу чамусьці ня спалася. Не жадаючы качацца на сьмярдзючай саломе ў хаце, выйшаў падыхаць чыстым паветрам. Сьвяціў поўны месяц, бзыкалі майскія жукі, зіхацелі срабрыстыя зоры. Навакол хаты хадзіў, адбываў дзяжурства самааховы Васіль Васільяў. Забачыўшы Язэпа, паказаў рукою на прызбу, каб Язэп прысеў, і апусьціўся сам. Хаця па ўставу каравульны ня меў права зь некім «разговаривать», але на перадавой з гэтым ня лічыліся.

«Чуе маё сэрца, Вася, быць бядзе,- распачаў гутарку Язэп. —Сьняцца мне нядобрыя сны ўсё нейкія пажары, нябожчыкі... Бачыў нядаўна свайго бацьку. Здаецца, сядзіць у яме і кліча мяне: «Бяжы сюды да мяне, бо заб'юць». А яго-ж у першую вайну разарваў нямецкі снарад».

—А ты пабег да бацькі,—спытаў Васіль.

—Не, не пабег.

—Тады будзеш жыць.

Памўчалі, а тады абазваўся Васіль: «Я, Юзік, ня гэнэрал, але думаю, што немцы нас завяжуць тут у мяшок. Ты думаеш гэтая «драбіла» кожны дзень так сабе кружыць над перадавой?

—Не, Вася, я так ня думаю. Немцы ведаюць ня толькі, колькі ў Вялікай Шабяліцны стаіць, задараўшы жэрлы ў неба, гаўбіц, а сфатагарафавалі кожны наш крок. Што думае таварыш Цімашэнка?

Васіль раптам ажно ўскочыў, і паказваючы рукою ў бок Харкава, выгунуў: «Глядзі!» У баку Харкава неба паласавалі маланкі і чуліся далёкія грымоты. А неба-ж было чыстае, зорнае. Здагадаліся сябры, што маршал Цімашэнка «надумаўся папалохаць немцаў».

Яны ізноў прыселі на прызьбе, і Васіль спытаў:«Скажы праўду: ты сапраўды быў асуджаны за хуліганства?»

Язэп адказаў пытаньнем на пытаньне : «А хіба мне даверылі-б зборю, каб я быў асуджаны за контррэвалюцыю, а не за хуліганства?

Васіль пакруціў галавою, што азначала: «Не даверылі-б». Тады Язэп ізноў запытаў:

—А тады ў Варнежы, калі вы зьбіраліся на вакзале мяне аграбіць, ты паверыў, што я былы хуліган?

—Так, паверыў, бо ты выглядаў тады на такіх блацакоў, як я, Колька Галубок, Сашка Ножык.

—А зараз ня выглядаю?

—Зараз ты падобны на гэнэрала, а не на шпану.

—Маеш, Вася, добрае вока разьведчыка, але ў Варонежы ты мяне не раскусіў: прызнюся, як на споведзі, я быў засуджаны за контрэвалюцыю. Ведаю, што блацакі, няхай і былыя, ня сэксоты, таму і прызнаўся аднаму табе. Думаю: Канькоў і Грубнікаў знаёмы з маёй асабістай справай, глядзяць за мною, каб не пабег праз Данец да немцаў. Бегчы я ня зьбіраюся, але ня ведаю, чаму мне даверылі зброю.

Васіль паглядзеў у бок Харкава і сказаў:

—А там нешта не на жарты паласуюць.

Язэп прамаўчаў і пачуў:

—Даверылі табе зброю і мне, бо няма каму не давяраць: усе мы контррэвалюцыянеры.Ты думаеш, я стаў блатным таму, што з голаду паміраў? Не, Юзік. Мой бацька быў гэнералам. Я жыў прыпіваючы, але ня доўга. Бацьку расстралялі як нямецкага шпіёна, маці з гора атруцілася, а я, каб замесьці сьляды, стаўся блатным.

У хаце праз адчыненае вакно пачуўся гоман. Язэп, каб не падводзіць Васіля, пасьпяшыў у хату.

У сераду, 20 травеня 1942 г. у самаахове быў Язэп. Хадзіў ён навокал хаты, затрымліваўся, ўглядаўся ў бок Харкава, дзе неба то ўспыхвала белым заравам, то цямнела. Раптам у баку Купянска, на ўсходзе, за саўгасам Сьвятагорск, дзе хаваліся ў вялікім садзе савецкія танкі, у цёмнае неба ўзьвіліся белыя ракеты.

—Што гэта такое здарылася,— падумаў яшчэ Язэп.— Там-жа нашы. Ракеты нашыя ня пускаюць, бо ня маюць. Няўжо немцы?

З гэтай думкай пабег Язэп у хату, разбудзіў Грубнікава

—Што здарылася?—незадаволена гаркнуў той.

—Белыя ракеты над Сьвятагорскам разрываюцца, таварыш камандзір.

Грубнікаў кінуўся да тэлефону, стаў званіць у штаб. Паклаўшы слухаўку, загадаў: «Хахлоў і Таран! —Зматваць тэлефон! Буглак —Бяжы на НП да Канькова, скажы, каб неадкладна перабіраўся ў Вялікую Шабялінку. Лабач, бяжы на новы НП, , зьнімі Васільева і сьпяшыце ў Вялікую Шабялінку».

Разьбегліся разьведчыкі выконваць загад. Ракеты над Сьвятагорскам успыхвалі, чуліся грымоты гарматаў. Калі Язэп стаў прыбліжацца да вышыні, дзе сядзеў у акопчыку Васіль, пачуліся і кулямётныя чэргі. Язэп ня стаў паўзьці па канаве, а бег, каб хутчэй сказаць Васю зматвацца, ажно Вася не чакаў загаду Грубнікава, бо ён затрымаў камандзіра пехацінцаў, які бег ад Данца і сказаў Васілю, што немцы наступаюць. Васіль бег з узвышша з камандзірам Сяргеем Мышкіным і спаткаў Язэпа. Утраіх пабеглі ў Вялікую Шабялінку. Спакваля неба за Сьвятагорскам стала ружавець. Ракеты ня ўзрываліся. Ад Данца папоўз туман. Кулі дзынкалі, але нікога з тройкі не зачапілі.

Не дабягаючы да Вялікай Шабялінкі, ўбачылі хлопцы глыбокі і шырокі кар'ер, а там Грубнікава, Канькова і ўсіх разьведчыкаў. На ўзвышшы недалёка ад кар'ера стаяў вялікі белы будынак школы-дзесяцігодкі. Грубнікаў распарадзіўся ісьці ў школу, забрацца на столь, праламаць у страсе «вокны» і заняць абарону. Пасьля перадумаў і паслаў Язэпа, Буглака Янку ў Шабялінкаўскі калгас да старшыні, каб той даў рыдлёўкі, а тады акапацца на ўзвышшы каля школы. Язэп і Буглак пабеглі шукаць старшыню калгасу. Калі яны дабеглі да першых будынкаў, із-за Сьвятагорскага саду выскачылі з страшным гулам і сьвістам самалёты. Язэп і Янка кінуліся да гумна і пападалі каля сьцяны з працілеглага боку. Хутка зямля закалацілася, там, дзе стаялі тры гаўбіцы, уцалелыя ад першамайскіх, «гасьцей», з скрыгатам і сьвістам паляцелі ў неба: зямля, калёсы, дошкі, пачалі ірвацца гаўбічныя снарады. Запалыхалі хаты. Адна бомба трапіла ў хлеў, што стаяў недалёка ад гумна. Хлеў загарэўся. Зараўла карова. Із склепу, што знаходзіўся чамусьці не пад хатай, а каля хаты выскачыла жанчына і кунулася да хлява ратаваць карову. За жанчынай бегла маладая стройная чорнавокая дзяўчына і крычала: «Мамо, мамо, што ты робіш? Повіртай назад.

Тэбэ-ж заб'юць». Жанчына ня слухала. Тады падхапіліся Язэп і Янка, пераняли жанчыну,падхапілі пад рукі і павалаклі ў склеп, а яна ўсё галасіла: «Та тамако-ж мая кормыліца погыбае. Пустіте мэнэ. пустіте». Яе ня пусьцілі, бо хлеў палыхаў, карова не абзывалася, самалёты бамбілі. У склепе быў ратунак. Жанчына супакоілася. Раптам і зямля перастала калаціцца, грымоты змоўклі. Язэп і Янка пакарабкаліся па драбіне, каб вылезьці із склепу і пачулі: «Чы вы сказыліся, хлопці? Куды вы підэце? Війна вжэ лычы скінчылася. Заставайтэсе у мэнэ. Бачытэ, яку гірну доньку маю?—і зірнуўшы запрашальна на Язэпа, паказала рукою на доньку. Язэп зьмераў доньку з ног да галавы, ацаніў яе прыгажосьць, прыпомніў: «Руса коса до пояса, ў косі лента голуба», але адказаў: «Не цётка. Вайна яшчэ ня скончылася». І ён вылез із склепа. Янка Буглак за ім ня вылез. Язэп не пайшоў шукаць старшыню, а пакрочыў да школы. Ад Данца беглі чырвонаармейцы. Пачуліся гарматныя стрэлы , пачаліся там-сям ірвацца снарады. Чырвонаармейцы падалі. Некаторыя падхопліваліся і беглі далей, а некаторыя не падымалсія. Язэп убачыў у кар'еры вялікі бугор, за якім схаваўся чалавек. Язэп вырашыў таксама схавацца за тым бугром, пабег за чалавекам, але той, бачна, камандзір, прыгнўўшы галаў, як-бы скочыў пад бугор. Язэп прыблізіўся і ўбачыў дзьверы. Язэп падумаў, што гэта бомбасховішча, і ўступіў у цёмны пралом паміж тоўстымі круглякамі ,але яго схапіў нехта за руку і сказаў: «Нельзя». Ён павярнуў назад. Пазьней Язэп даведаўся, што там, пад бугром, знаходзіўся штаб артылярыйскага 101 палка. Тады-ж пачуў, як крычаў злосны голас: «Чаму ня страляюць кацюшы?» Танклявы голас адказваў:«Няма гуркоў таварыш генерал».

«Каб зараз-жа кацюшы загаварылі». Заклапочаны каманьдзір-артылерыст пашыбаваў у сад каля школы. Язэп прылёг за бугром. Там-сям разрываліся невялічкія снарады. Гэта пухкалі нямецкія танкетыкі Неўзабаве два разы зашушукалі кацюшы і болей не абзываліся. Язэп падумаў:«А дзеж нашы танкі?» — і паглядзеў на Сьвятагорск. Із саду выпаўз, як гумно, «Клім Варашылаў». Выпаўз і акамянеў. Із люку выскачылі адзін за адным два танкісты і кінуліся, хто куды. Язэп атарваў пагляд ад танкістаў, бо пачуў распачлівы голас: «Сястра! Сястра! Памажы!» Гэта крычаў ранены, што ўцякаў ад танкеткі, і не дабег да бугра. Сястра выскачыла із-пад кусьціка, дзе хавалася ад сьмерці, падбегла да раненага, зірнула на яго, закрыла твар рукамі і пабегла назад. Язэп ня вытрымаў, рашыў хоць чым дапамагчы раненаму, кінуўся да пакінутага сясторю і таксама хацеў уцякаць ад убачанага, але перамог сябе, бо пазнаў у раненым бацьку Клашы Пятра Міхайлавіча Пятрова. Той стаяў на каленях і трымаў у руках свае кішкі. Пётар Міхайлавіч пазнаў Язэпа, усьпеў прамовіць: «Даруй, братка!» і ўпаў тварам на зямлю, Язэп кінуў вінтоўку, схапіў аўтамат Пятра Міхайлавіча з поўным дзіскам патронаў і пабег праз кар'ер да школы. Танкеткі замоўклі. Сьцярвятнікі ня кружылі ў небе. Немцы не сьпяшылі, закасаўшы рукавы, ганяцца па стэпу за «Русішэ швайн». Яны галоўную задачу выканалі: «завязалі мяшок», а завяршаць крываую работу пакінулі румынам.

Язэп дабраўся да школы. Спаткаў яго крыкам Грубнікаў. «Дзе быў? Дзе рыдлёўкі?» Язэп ня вельмі спалохаўся. Грубнікава, бо ведаў, што адказаць:«Старшыню калгаса забілі, а кладаўшчыка я не знайшоў. І сам мусіў уцякаць ад танкеткаў, хавацца, дзе можна было схавацца. Вось і затрымаўся.»

Грубнікаў перапыніў Язэпа: «А дзе Буглак?

—Ня ведаю,—зманіў Язэп.—Можа, забілі.

Грубнікаў доўга глядзеў недаверліва ў вочы Язэпа,а тады сказаў Хахлову «снабжэнцу», каб выдаў Лабачу сутачны паёк: два сухары чорнага хлеба і палову кансэрвы тушонага мяса.

—Гэта апошні паёк, — сказаў Хахлоў і разьвёў рукамі. —Што будзем рабіць далей?

—Давядзецца ізноў раскулачваць калгасьнікаў,—адказаў Лабач, І яны палезьлі па драбіне на гарышча. Там была ўся разьведка. Хто ляжаў, хто стаяў на каленях і ўглядаўся праз дзірку ў старасе на зялёную стэп, дзе ляжалі забітыя чырвонаармеейцы. Ніхто іх ня прыбіраў, не закопваў.

Прыпякала майскае сонца. Чарапічная страха разагравался: на гарышчы сядзець станавілася неўмагату. Разьведчыкі сталі бурчаць, але палітрук Канькоў не асьмельваўся адмяніць загад Грубнікава. Хутука ён вярнуўся і выручыў із духаты: «Злазьця!. Пойдзем ў Савецкія хутары».

Доўга йшлі зялёным стэпам. У Міхайлаўцы затрымаліся. У першым-жа садку селі адпачыць. Із хаты выйшаў нягеглы дзядок. Грубнікаў да яго: «Прынясі нам, дзед, варэнікаў». Дзед пакруціў галавою : «Нэ маю ні варэнікіў, ні парэнікіў. Всэ роздаў». А Грубнікаў: «А мы забачым, як ты раздав. І да разьведчыкаў: «Праверыць».

Разьведчыкі накіраваіся ў хату, толькі Іван Таран адмовіўся: «Незакінным морадзірствам займатыся нэ буду». Грубнікаў падскочыў да яго з аўтаматам, але Івана загарадзіў сабою Васіль Васільевіч, кажучы: «Прыберажыце патроны для фрыцаў, таварыш Грубнікаў. Мы абыйдземся і без Тарапа.» Не чакаў камандзір такой «контррэвалюцыі», але апусьціў руку з аўтаматам, бо ў штабе даведаўся: «Мы ў акружэньні»:

Не знайшоўшы ні «варэнікіў, ні «парэнікіў»,падыбалі ў Савецкія хутары.За вялікай вёскай—шырокая спэп без адзінага кусьціка, толькі, як гумно, высіцца валун. Да таго валуна з усіх бакоў ідуць чырвонаармейцы ,едуць кавалярысты, танкі. Язэп ажно жахнуўся, як убачыў такую колькасьць людзей і тэхнікі. Яму здалося, што тут сабралася ўся Чырвоная армія СССР. Не паверыў ён танкісту, які абганяў разьведчыкаў па дарозе да валуна і крыкнуў: «Капут, матка!» Як даведаўся Язэп пазьней, танк, зь якога крыкнуў танкіст, і яшчэ танкаў зь дзесяць вырваліся із Харкава, які Цімашэнку не ўдалося адбіць у немцаў.

Тым часам над галовамі пратарахцеў «кукурузьнік» і прызямліўся каля валуна. Разьведчыкі стаялі далекавата ад валуна, але ўбачылі, як на валун узабраліся тры «вялікія шышкі». Адзін зь іх —кáмандуючы Украінскім фронтам, маршал Цімашэнка. Ён зьвярнуўся да прыстуных з заклікам:

«Таварышы чырвонарамейцы ,камандзіры і палітработнікі! Не схаваю ад вас: мы акружаны пераважаючымі сіламі ворага. Выхад пакуль што адзін—сягоньня ўночы мусім прарывацца. Прарывацца праз Данец на Лазавеньку. На Лазавеньку таму, што адтуль нам на выручку ідзе танкавая калёна імя таварыша Сталіна». Пачулася рэдзенькае: «Ура!» Цімашэнка й яго памочнікі зьлезьлі з валуна, селі ў «кукурузьнік» і паляцелі прарывацца на ўсход.

—Бачыш, —злосна сказаў Васіль Язэпу, —вы дурні, прарывайцеся, а ён, сволач, ужо прарваўся.

Язэп паддакнуў:

—Ды, каб я быў Сталінам я яго, дурня, расстраляў-бы. Мы-ж лічы паўгода сядзелі ў «мяшку». Толькі Купянск быў у нашых руках, як-бы брама на ўсход. Трэба было ня лезьці на Харкаў, расшыраць Купянскую браму, не чакаць ,пакуль яе захопяць немцы,

А цяпер галодныя мусім прарывацца на Лазавеньку. Пакладуць нас там немцы, як бараноў.

—Вы, як собі хочэтэ, а я на прорів нэ піду.

—Ціха будзь!—цыкнуў на Таран Язэп. Канькоў пачуе.

Канькоў узяў на сябе функцыі Грубнікава, які дзесьці згубіўся. «Згубіліся» і камандзір чацьвёртай батарэі Шаўчэнка, і камісар Іваненка. Яны-ж украінцы, лягчэй было выпрасіць у землякоў вопратку і пераапрануцца, а то і ў прымы прыстаць да Аксаны ці Агрыпіны. А разьведчыкі ляжалі ў хлеве на саломе, лузалі падсолнухі, сьцібраныя ў гаспадара. Ляжалі, балакалі, чакалі страшнае ночы. А ноч нечакана насунулася з грымотнымі хмарамі і бліскавіцамі.

—За мною! —скамандаваў Канькоў.—Ён стаў з аўтаматам у руках каля дзьвярэй, прапускаў разьведчыкаў. Васіль затрымаўся і спытаў з падкаваыркай:«А ці танкавая армада імя Сталіна прывязе нам хоць па сухарыку?

—Прывязе ня толькі па сухарыку.

—І па дамавіне.

—Не выскаляйся, а правальвай!

Васіль не правальваў, а чакаў, што будзе рабіць Канькоў з Іванам Тараном, які не падняўся з саломы.

—А ты чаго кантуешся, таваршы Таран? Асобнае каманды чакаеш?—вызьвярыўся Канькоў і наставіў аўтамат.Васіль схапіў за рулю аўтамат, падняў угору, сказаў павучальна:

—Паберажыце, тварыш камандзір патроны для фрыйцаў.

Канькоў, як ашпараны, выскачыў із хаты і крыкнуў: «За мной!»

Разьведчыкі павінаваліся, толькі Іван Таран не падняўся.

Да Лазавенькі было далекавата. Калі за якіх пару гадзінаў сталі набліжацца тры арміі з танкамі, артылерыяй без гуркоў, кавалерыяй, пяхотай, расхадзілася навальніца: загрукаталі грымоты, сталі паласавацца неба бліскавіцы. Немцы ня спалі ў шапку: саданулі із граматаў, мінамётаў, кулямётаў. Неба запалыхала ад ракетаў і бліскавіцы. Стала сьветла, як у сонечны дзень. Неба абрушылана няшчасных «русішэ швайн» студзёныя шыхі дажджу. Усё перамяшалася: грукоцьце гармотаў,бліскавіцаў, успышак ракетаў, кроў забітых і параненых з вадою. Крыкаў ня было чуваць, бачна было толькі, як лавіна шэрых шынэляў шуганула назад. Ляцелі коньнікі, тарахцелі танкі, беглі чырвонаармейцы. Язэп з Васілём ляжалі за камнем. Міма іх шмыгануў Канькоў, Васіль смалянуў па ім з свае дзесяцізарадкі.

Мокрыя, але радыя, што жывыя, вярнуліся ў савецкія хутары. Не вярнуліся: Бабаджан і Хахлоў. Язэп і Васіль пераначавалі ў склепе з дабрадушнымі хахлушкамі. Яны пачаставалі іх белым хлебам і маслам. А яшчэ салодкімі вуснамі.

Праснуліся два «друга» ад сьвісту і грукатку бомбаў. Хахлушак у склепе не было. Выскачылі Язэп і Васіль на двор, каб забачыць, што там робіцца. Сонца стаяла высока і прыпякала, не шкадуючы праменьняў, быццам прасіла прабачэньян ў «русішэ швайн» за ўчарашнюю ўлеву. А навакол шмыгалі нямецкія «сьцярвятнікі», сьвісталі і бухалі бобмы. Немцы сьціскалі мяшок, пакінуўшы на паўдні свабодную ад бомбаў прагаліну. Там, на ўзвышшы, стаяў адзінокі воз. Ён нібы клікаў: «Ідзеце сюды, хлопцы залазьце пад мяне, кладзецеся адпачываць. Тут вас не дастануць асколкі вашых-жа зяніткаў, якія асьмельваюцца яшчэ пукаць.І Язэп з Васілём паслухалі гэтага таямнічага голасу і пашкандыбалі.

Калі яны прыблізіліся да воза, із акопчыка пад возам выскачыў румын і крыкнуў: «Гэндэ гох»



Працяг у наступным нумары

# Дань майго часу

 Янка Юхнавец 

## *Звычайнае*

(празаічнае)

...у звычайным шмат што сустрэніцца.
Людзі здаровяцца, ручаюцца, жывуць.
і паміраюць у росквеце цялеснай моцы
не спраўляючыся, у душэўнай вялічыне
штосьцьлюбае—клопатыбыцьцяняканчаныя,
насьледнікам бяз сораму пакінуць.

...паэтычнае сваволья
толькі для цябе паэты.
З мяшчанскага, усё жыцьцё,
раптам творыцца ўспамінамі—
акрэсьлена, неразборлівымі запаветамі.

...звычайнае прылізалася
з газэтных навасьцяў.
Там цяпер няма дамоў
(ваной разрушаныя),
але вуліцы засталіся.
У працягу месяцаў абяцаюць,
іх зьмераную шырынёй дамоў,
падмуркі сьціснуць вуліцы
вышынёй дамоў.

...адрас згубіўся мой.
Там зноў, у Менску.
«вясной»
перадаўся адрас кепска.

...не адступаецца імя Радзімы.
Зваротны адрас?
Атрымаў.

....атрэсеныя галіны бы
з маёй дзяржавы—
смутная радасьць.

## ***

Законамі ад яго рукі ў блізасьці ад раю
сьвятога ці благога.
Каін з цела Авэля душу,
выцадзіў на зямлю крывёй.

—Болесьці найбольшыя не ў Душы,
а ў целе нашым...
Але гульня з жыцьцём спрадвечная,—
Каін, шчыра ўпэўніўся,
і глянуў на неба хлусна-прадайнае,
а тады на Авэля распрастанага, забітага,
што на зямлі папалася, сустрэлася яму...

—Я маму пазаву,
што скажа мне над Авэлям памёрлым?
Напэўна, скажа:
—У мяне жальба найпершая зьявілася,
і магілку першую ў раю,
няхай Адам убачыць—
ён першым за мяне ў сьвеце.

...падыйшоў Адам.
Да крыві ля Авэля дакрануўся.
З далоні спырснуў на Каіна й Еву.
—Не багаслаўленьня...
Каін, паглядзі, Каін, узірніся,
як постаць люстрацца твая у ёй.
Сьмерць ад сёньня будзе тлець
па зямлі ўсёй....
....накладзёмхмызьнякіз зёлкамі пахучымі—
вопратка ад раю непаўторнага.
Спалім цела Авэля і кроў.
...у дыме між патомкамі ад Каіна
ўскрэсіцца любоў.
....няхай не па крыві плыве да іх.

1947. Баварыя.

# «Ціхая песьня калыша сусьветы...»

Сьвятлана Явар



* * *

На старой на званіцы,
у сівой камяніцы
гучным клічам званы
звонка люд на вялікі сход клічуць.

Кліч ня разам маліцца,
не раскайвацца ў розных грахах...
Кліч сабрацца, спыніцца
і пачуць, і адчуць немы страх.

За краіну, якая так многа гадоў
тоне-гіне ў таўшчэзных аблоках,
захлынаецца ў багне вякоў,
што стапталі яе мерным крокам.

Войскі злосных чужынцаў
дзялілі,
глумілі,
глыталі...
Толькі волі народу да шчасьця
яны не стрымалі.

Сарамліва дадолу
спускаючы веі,
стаіць сіратліва
аслабелая з доўгіх пакутаў.

У рваным адзеньні—
нязломная моцаю духу
(хоць жабрацтвам-калецтвам прыгнута):
прарасла бо з жывога насеньня
краіна. Божа, як перажыць
гэтых страшных гадоў завіруху?

* * *

Ціхая песьня калыша сусьветы,
будзіць натхненьне для пекных санетаў,
сумам агортвае, жалем кранае,—
песьню сьпявае кабета старая.

Бедна апранута, згалелая хатка,
вецер пад стольлю гайдае дзіцятка
(дрэмле, стаіўшыся, у люсьцы-калысцы).
Пуста ў хаце, пустыя і міскі.

Ціхая песьня калыша сусьветы,
вырасьце дзіцятка, стане паэтам,
хутка забудзецца маці і хату,
у чужыне будзе жыці праклятай.

Цяжкаю працай прыгнуты дашчэнту,
будзе ня бачыць за ёю ён сьвету...
Матчыну песьню сьпяваць, што трымае,
зьботы чужынаю дух—узьнімае...

* * *

Вільгацьцю дыхаюць сьцены таўстыя—
сьцены суровай цямніцы маёй.
Сілы халодныя, сілы благія
пільнаваруюць зьмярцьвелы спакой.

Птушкі дзяруцца аб сьцены цямніцы,
шолахі крылаў, маўчаньне і ноч...
Божа, калі-ж з акаяннай вязьніцы
выпусьціш ў полымя зоркавых ноч?

# Рэха абуджаных дзён

Васіль Супрун

## *Жураўлі*

Прагна ўглядаюся ў клін жураўліны,
Крыкі іх думы палоняць мае.
Гляньце!
Ляцяць-жа яны праз даліны
недзе ў сьвятыя мясьціны свае.
Нават і птушкам радзіма патрэбна.
Край свой штогодна іх цягне чамусь.
Хто -ж вінаваты,
што здрадай ганебнай
Каіны плямяць Цябе,
Беларусь?
Слонім, 1987

## *Вяртаньне*

Пры гасьцінцы—бяроза.
Калісьці стаяў побач крыж
На малітву
зьбіраліся людзі сюды надвячоркам...
І здаецца нядаўна было гэта.
Божа, калі-ж
праляцелі гады?
Дагараючы ўпаўшаю зоркай.
А прайшло аж паўсотні
і вёснаў, і летаў, і зім.
Лёс раскідаў людзей,
нацярпецца прыйшлося нямала.
І на мейсца малітвы
прыйшоў я сягоньня адзін, —
ні сяброў, ні крыжа
на гасьцінцы тым нашым ня стала.

## *Сядзь, пагаворым*

Крышачку сядзь,
адпачні,
пагаворым.
Можа й успомнім былое, браток.
Хоць і ня хочацца згадваць аб горы,
але й яно—нашай долі шматок.

Так ужо пэўна збудаваны людзі,
што перажытае цяжка забыць.
Боль, ён-бы каменем цісне на грудзі.
Іншым нам і ня быць.

Кажаш — і ты, схамянуўшыся ноччу,
доўга качаешся з боку на бок,
лягеры сніш, кайданы, адзіночку,
Поўнач, тых зьдзекаў кашмарны клубок.

Сядзь, пагаворым.
Цяпер, браце, можна,
горкую праўду казаць, хоць цішком.
Можа ня ўсю,
бо з хвілінаю кожнай
могуць зрабіць гэта новым грашком.

Тыя-ж чыны, толькі ў крэслы другія
сёньня паселі, прыцішыўшы роў.
Кажуць: на праўду ў іх алергія,—
час не змывае нявінную кроў.
1964 г.

* * *

Браты! Шаноўныя!
Зьвяртаюся да вас з пытаньнем:
Няўжо да скону будзем валачыць
Ярмо чужое
І з калень ня ўстанем?
Няўжо і сёньня сэрца прамаўчыць?




Яшчэ ня скора званок, а мы— навучэнцы Віцебскага мастацкага тэхнікума, каля трыццаці хлопцаў і дзяўчат —разьмясьціліся ў клясе разам з натуршчыкам і Фёдарам Адольфавічам Фогтам. Калі бачыш яго ўпершыню дзівішся вонкавасьці гэтага чалавека.

Незвычайна вялікі рост, сутулы, параўнальна невялікая галава для двухметровай фігуры. Смуглы твар, вялікія карыя, зьлёгку на выкаце вочы. Жылістыя кісьці рук з доўгімі пальцамі сьведчаць, што перад намі або артыст, або мастак.

Фёдар Адольфавіч насіў доўгую шэрую блузу-талстоўку і чорны шаўковы, заўсёды аднолькава павязаны бант.

Мы пераймалі яго звычкі і, як многія мастакі ў дваццатыя гады, таксама насілі блузы.

Любілі мы Фёдара Адольфавіча Фогта і за тое, што ён добра граў на раялі, любіў тэатр, цудоўна ведаў яго. Ён умеў выклікаць цікавасьць да многага, міма чаго часам пройдзеш, так і не ўбачыўшы нічога арыгінальнага. І вучыў ён,студэнтаў, па-свойму, здавалася, без усялякай праграмы, а дабіваўся посьпехаў хутчэй чым іншыя.

Ён, вучань прафэсара Д.Кардоўскага, пасьля заканчэньня Акадэміі мастацтва ў у 1915 г. Ф.Фогт доўга працаваў тэатральным мастаком.

З 1919 г. стаў выкладаць у нашым тэхнікуме. Ён быў усебакова адукаваным чалавекам, глыбока ведаў літаратуру і мастацтва. У яго «персьпектыва» з сухой навукі пераўтваралася ў цікавейшы закон, безь якога немагчымы ні жывапіс, ні графіка, не кажучы ўжо аб архітэктуры.

Кожны вурок Фёдара Адольфавіча не быў падобны на папярэдні. Іншы раз, напрыклад, на працягу дзьвюх гадзін мы малявалі мадэль у руху. Праз кожныя пяць хвілін натуршчык мяняў палажэньне торса, рук, ног а мы павінны былі пасьпець перадаць складаную схэму руху. Разьвівалі мы таксама зрокавую памяць. Мадэль знаходзілася за сьпіной. Час ад часу нам дазвалялася аглянуцца.

Падобныя трэніроўкі прыносілі цудоўныя вынікі. Прыгадваецца вурок Фёдара Адольфавіча, прысьвечаны кісьці чалавечай рукі. Фогт прыйшоў зь вялікай пачкай рэпрадукцыяў з партрэтаў, напісаных мастакамі розных эпох. У кожнай кампазыцыі былі рукі. Пакідаючы ў партрэце непрыкрытымі толькі рукі, ён пытаўся, каму яны належаць. Мы лёгкага адрозьнівалі рукі арыстакратаў ад рук людзей фізічнай працы, але блыталіся ва ўзросьце, паколькі рукі маладога чалавека, які займаецца фізічнай працай, значна старэй за руку маладога гультая.

Пачатак ў № 5(5)—9(19), 5(25)-6(26)

Мы працавалі, а Фогт падыходзіў да кожнага і даваў парады. Але не было выпадку, каб ён сам браў аловак і рабіў папраўкі. Толькі сёньня я зразумеў, што ён не хацеў пазбаўляць маладога чалавека магчымасьці самому разабрацца ва ўсім.

Не ўсе студэнты ведалі, што наш настаўнік быў хворы на сухоты. Ён умеў хаваць сваю хваробу і заўсёду заставаўся добрым, не выклікаючы да сябе жаласьці. Усё гэта атрымлівалася ў яго само сабою, бяз позы.

У цяжкія трыццатыя гады тэхнікум атрымліваў мала фарбаў і пэндзеляў. Паперы не было зусім. Фёдар Адольфавіч выдаваў мне як старасьце курса шпалеры, адваротны бок якіх мы скарыстоўвалі для малюнка вугалём. Пад аловак ішлі малюнкі выпускнікоў мінулых гадоў. Я бачыў як цяжка было Фёдару Адольфавічу расставацца з гэтымі работамі. Ён доўга пераглядаў, перакладаў іх, аберагаючы ўсё лепшае. Між іншым, з работ навучэнцаў ён потым стварыў вельмі цікавы музэй тэхнікума.

Фогт арганізаваў у нас графічную майстэрню з досыць багатым на тыя часы тэхнічным абсталяваньнем. Яшчэ пры яго жыцьці на базе майстэрні было адкрыта графічнае аддзяленьне, на якім займаліся вядомыя цяпер мастакі Б.Басаў, В.Ціхановіч, І. Давідовіч, Л. Ран, Д.Генін, Ул.Сакалоў, Н.Галоўчанка ды ішныя.

Жывапіс выкладалі В.Волкаў, М.Эндэ, Ул. Хрусталёў. Уладзімір Якаўлевіч Хрусталёў быў адным з найлепшых нашых настаўнікаў. Яго запрасіў на працу ў тэхнікум Міхаіл Аркадзьевіч Керзін.

У Хрусталёва быў зусім інакшы чым у Фогта «почырк» выкладаньня.На падлозе, напрыклад, ляжалі табурэты (тры) і цэлы тыдзень мы іх малявалі. Маляваць адразу тры та-бурэты было нялёгка. Лініі ножак перасякаліся ў персьпектыве, ствaралі складаныя хітраватыя сьпляценьні. Трэба было будаваць дадатковыя і дапаможныя лініі, што ў сваю чаргу ўскладняла работу. Шмат разоў, паўтараючы малюнак, студэнты часамі ўпадалі ў адчай і пачыналі абурацца. Часьцей за ўсё ў такія моманты зьяўляўся Уладзімір Якаўлевіч. «У чым справа?»—пытаўся ён. На нас адкрыта глядзелі яго шэрыя ўдумлівыя вочы.

Хрусталёў быў хударлявы чалавек ,трохі вышэй сярэдняга росту, з кучаравай чупрынай, нейкімі вузлаватымі рукамі, пры гальштуку і ў чорным гарнітуры. Акуратны ва ўсім. Чыста паголены. Голас ціхі. Амаль шэптам зьвяртаўся ён да ўсіх толькі на Вы. Калі браў у рукі аловак, мезенец сам па сабе ішоў уніз, упіраючыся ў паперу, нібы ножка цыркуля ці муштабеля.

Дзе засвоіў гэтыя манеры патомны пуцілаўскі рабочы-сьлесар, якому ў тыя гады было ўсяго трыццаць тры, — ніхто з нас ня ведаў. Вельмі сьціплы чалавек, добры мастак, які нялёгка прабіў сабе шлях у мастацтва. Уладзмір Якаўлевіч пакінуў нам многа цудоўных пейзажаў і карцін. Вельмі шкада, але здарылася так, што няма ў нас пра яго ні манаграфіі, ні хоць-бы буклета.

Валянтын Віктаравіч Волкаў, настаўнік Хрусталёва, расказваў мне пра яго. Упершыню В.Волкаў сустрэўся з маладым Хрусталёвым у выяўленчай студыі рабочай моладзі ў Петраградзе ў першыя гады рэвалюцыі. Удзень Хрусталёў рабіў запальнічкі і ладзіў прымусы, а ўвечары прыходзіў у студыю, кіраўнікам якой быў В.Волкаў. Ужо тады ён паказваў цікава выкананыя камені —мініяцюрныя барэльефы галовак, рэзаныя па сланцовай косьці. Гэтаму мастацтву ён не здраджваў да апошніх дзён свайго жыцьця, Пасьля заканчэньня студыі разам з настаўнікам Хрусталёў пераехаў у Веліж, а

затым у Віцебск.

Зацяты паляўнічы, Уладзмір Хрусталёў вельмі любоў зборю. Стрэльба прываблівала яго як прадмет мастацтва, які здзіўляў сваёй плястыкай, разьбой, вараньнем і чарненьнем. Ён лёгка адрозьніваў маркі зброі і высока ставіў тульскіх майстроў. Часта на курс ён прыводзіў сабаку — і мы малявалі і ляпілі яго па чатыры гадзіны запар. Наш тэхнікум быў зь педагагічным ухілам, і Уладзімір Хрусталёў з надзвычайным веданьнем справы выкладаў ня толькі малюнак, але і педагогіку. Зьдзіўляла эрудыцыя маладога выкладчыка. Трэба сказаць, што навучэнцаў мала радавала персьпектыва стаць настаўнікамі маляваньня ў школе, а Хрусталёў, які сам любіў выкладаць, здолеў прывіць гэтую любоў і студэнтам. Мы любілі яго. Мабыць яшчэ і таму, што ў яго была адносна невялікая розьніца ва ўзросьце з вучнямі.

Успамінаецца і Юдовін, вучань і сябра Пэна. Ва ўсіх даваенных каталёгах выставак мы сустракаем рэпрадукцыі твораў гэтага цудоўнага мастака. Некаторыя мастацтвазнаўцы несправядліва крытыкуюць яго творчасьць, асабліва пэрыяду 20-х гадоў, абвінавачваючы яго ў апалітычнасьці і сузіральніцтве. Кажуць, быццам яго творчасьць замыкаецца ў вузкім коле «кварталаў яўрэйскай беднаты», архітэктурных помнікаў сынагог, цэркваў і касьцёлаў, віцебскіх ускраін, пейзажаў над Віцьбай. Што-ж, гэта быў сьвет, у якім давялося доўга жыць мастаку. І зь якім густам і тактам, а галоўнае, зь якой задушэўнасьцю Юдовін маляваў яго.

Мастак-рэаліст, ён да 1928 г. стварыў бліскучы графічны цыкл аб грамадзянскай вайне. Жывучы ў Ленінградзе, ён таксама стварыў сэрыю гравюр, прысьвечаных Беларусі. Майстар лінагравюры і скілаграфіі, цудоўны майстар кампазыцыі і малявальшчык, Юдовін уплываў шмат на каго зь беларускіх мастакоў.

Прыгадваючы педагогаў тэхнікума, нельга абмінуць навучэнцаў, бо выпускнікі тэхнікума склалі ядро беларускага калектыву мастакоў, якія ўжо ў час першай дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве (1940) атрымалі шырокае прызнаньне. Грамадзкасьць Масквы ставіла беларускіх мастакоў на другое месца пасьля мастакоў Расейскай Фэдэрацыі. Некаторыя з выпускнікоў сталі народнымі мастакамі, заслужанымі дзеячамі мастацтва ў БССР, прафэсарамі, дацэнтамі вышэйшых навучальных установаў. Многія з былых студэнтаў сёньня прызнаныя майстры. А многія загінулі ў змаганьні за Айчыну. Мне хочацца прыгадаць некаторых з тых, чые імёны напісаны залатымі літарамі на мемарыяльнай дошцы ў нашым Саюзе мастакоў.

Ягор Ізмайлаў, скульптар, чалавек высокай эрудыцыі. Ён шмат чытаў, набываў рэдкія выданьні па мастацтву. Яго аднапакаёвая кватэра на вуліцы Карла Маркса была сапраўднай бібліятэкай, дзе на паліцах стаялі і кнігі клясыкаў, і першыя адбіткі афортаў Рэмбранта. Калі фашысцкія захопнікі напалі на нашую Бацькаўшчыну, Ягор стаў у рады барацьбітоў. Працуючы разам з жонкай Людмілай Зданоўскай у смаленскім падпольлі, ён збіраў фотаматэрялы, дакумэнты, розную інфарамцыю і перадаваў за лінію фронта. Сярод падпольшчыкаў аказаўся правакатар, і Ізмайлаў з жонкай трапілі ў рукі гестапа. Адступаючы, фашысты перавезьлі Ізмайлава з жонкаю ў Менск. Тут яны былі нейкі час у канцлягеры, а пасьля зноў трапілі ў турму. Людміле прапанавалі выбар «або турма або выезд у Нямеччыну». На гэтым зьвесткі пра патрыётку абрываюцца. (Лягер на вуліцы Краснай быў

такім-жа лягерам сьмерці як і астанія вязьні ведалі, што пад выглядам адпраўкі ў Нямеччыну іх пагрузяць у машыны й атруцяць газамі) Ізмайлаў прабыў у менскім лягеры нядоўга. Начальнік лягера, кажуць, прымусіў яго вылепіць ягоны партрэт. Скульптар працаваў як заўсёды, бо быў рэалістам, спяшацца не было патрэбы, работа цягнулася каля 3-х тыдняў—часу хапала нават на размовы, начальнік добра гаварыў па-расейску. Аднойчы размова дайшла да шчырай гаворкі, і начальнік запытаўся:

—Скажы Ізмайлаў, а калі-б я трапіў табе ў рукі, ты застрэліў-бы мяне ці пашкадаваў-бы кулі—засёк?

Адказ быў лаканічны

—Засёк-бы.

Жыве ў памяці і жывапісец З.Мірынгоф. Ён займаўся ў тэхнікуме яшчэ тады, калі дырэктарам быў М.А. Карзін. Мірынгоф пакідаў уражаньне флегматычнага, інэртнага, словы ён зь сябе літаральна выціскаў, робячы частыя паўзы. Затое ў творчасьці ён быў красамоўным. Мне помняцца яго эцюды і пейзажы ў халоднай гаме таго часу, калі ён пасьля вучобы ў інстытуце пераехаў на сталае жыхарства ў Менск. Гэтыя пейзажы, шчыра кажучы, мне падабаліся ня вельмі. А вось напісаная крыху пазьней карціна «М.В. Фрунзе ў штабе Заходняга фронту» была цікавая па кампазыцыі, актыўная па агульнаму калярыту. Гэта была сапраўдная ўдача мастака. Фашысты расправіліся з З.Мірынгофам у першыя-ж дні пасьля захопу Менску.

Скульптар Жораў. Бландзін зь яркаблакітнымі вачыма, не весялун, вельмі талентавіты. Пасьпяхова скончыўшы курс па скульптуры ў М.А. Керзіна, Жораў не абмежаваўся толькі скульптурай. Ён любіў маляваць і пісаць маслам, афармляў спэктаклі. Выдатны расказчык, ён умеў смяшыць сяброў сваімі неверагоднымі гісторыямі. Часам ён раптам зьнікаў на доўгі час, а пасьля зьяўляўся і яго рэпэртуар абнаўляўся. Дзе ён толькі ні бываў і кім толькі ні працаваў: і ў цырку, і ў кіно, і ў тэатры! Жораў нават выступаў на эстрадзе ў якасьці мастака-«маменталіста».

Была ў Жорава яшчэ адна прафэсія—ваенны лётчык. Ён выдатна валодаў майстэрствам кіраваньня баявых машын, быў выдатным парашутыстам. Скульптар загінуў у родным небе, змагаючыся з ворагам.

Гартаючы каталёг апошняй прадваеннай мастацкай выстаўкі, мы сустракаем фота яго скульптурнай групы—«Сярго Арджанікідзе ў разьведцы пад Барысавам». Гэта ўсё, што засталося зь ягоных твораў.

Багата часу прайшло з далёкіх гадоў вучобы, але і сёньня, прыходзячы ў майстэрню, думаючы над новым творам, адчуваеш, быццам побач стаяць твае настаўнікі і сябры па вучобе —Фогт, Хрусталёў, Керзін, Юдовін, Ізмайлаў, Жораў ды іншыя. І заўсёды ў думках раішся зь імі.

(Працяг у наступным нумары)




*Экслібрыс Яўгена Ціхановіча*

# КАРАНІ НАШАГА РОДУ

## Дапамога ідзе на Бацькаўшчыну

Сьвятлана Менская

*Аб гэтай паездцы на Бацькаўшчыну на Першы зьезд беларусаў сьвету кліўлендцы могуць расказываць доўга. І аб тым, якія насычаныя на падзеі былі ўсе гэтыя дні, калі спаць многім зь іх прыходзілася ўсяго па 4 гадзіны ў суткі. (І гэта калі мець на ўвеце, што пераважная большасьць гасьцей мела за 60 год). І аб тым як «палявалі» за імі журналісты розных выданьняў, бяручы ін-тэрв'ю. І аб цудоўным канцэрце ў дзень адкрыцьця зьезду, які проста зачараваў багацьцем талентаў беларускага народу. Нягледзячы на тое, што многія беларусы з кліўлендзкай групы ўжо ў мінулым годзе наведвалі Бацькаўшчыну (а многія і не адзін раз), гэтая паездка, мабыць, стане адной з найпамятнейшых для кожнага зь іх.*

*Вялікую ролю, пэўна адыйграў у гэтым Першы зьезд беларусаў сьвету. Згодна апытаньня 727 жыхароў рэспублікі Беларусь, якое праводзілася з 12 па 14 ліпеня 1993 году беларускай службай «Грамадзкі погляд»:*

*71% апытаных лічаць, што Першы зьезд беларусаў сьвету дапамог у справе нацыянальнага адраджэньня Беларусі.*

*79% упэўнены,што зьезд спрыяў умацаваньню сувязьзяў паміж беларусамі, якія жывуць у розных краінах сьвету.*

*54,4% жыхароў рэспублікі выказаліся за тое, што Першы зьезд беларусаў сьвету ўмацаваў аўтарытэт Беларусі на міжнароднай арэне.*

*54.4% апытаных лічаць, што зьезд садзейнічаў станаўленьню беларускай дзяржаўнасьці.*

*Дадайце да гэтых працэнтаў галасы кліўлендцаў, якія ўдзельнічалі ў зьездзе, і малюнак будзе больш поўны.*

*Нарэшце, дачакаліся й яны, беларусы замежжа, дня агульнага паяднаньня беларусаў. І першага сумеснага Купальля, калі насупраць даждлівай ночы, разам шукалі запаветную папараць-кветку, сьпявалі купальскія песьні, кідалі ў Нёман вянкі надзеі. І вандроўкі ў Наваградак, на «каранацыю Міндоўга». А хіба можна забыццца дзень адкрыцьця Першага зьезду беларусаў сьвету, калі ягоных удзельнікаў цёпла віталі і прадстаўнікі ўраду, і беларусы Бацькаўшчыны?! Словам, гэтая паездка запомнілася ўсім:і палітычнай, і культурнай, і сваёй нацыянальнай праграмай. Але акрамя гэтага паездка кліўлендцаў насіла яшчэ і гуманітарны характар. Аб гэтым мы сёньня і хочам расказаць у часопісе «Полацак».*

Пасьля заканчэньня працы Першага зьезду беларусаў сьвету, калі паступова пачалі прыціхаць ўсе хваляваньні, зьвязаныя гэтай незабыўнай сустрэчай, калі ўжо ня трэба было бегчы на нейкую нараду або прыняцьцё, калі ў прэсе пачалі зьяўляцца артыкулы, прысьвечаныя іх сьціплым асобам, кліўлендцы сталі зьбірацца да сваякоў і сяброў. Але найперш чым разьехацца да сваіх родных, група кліўлендцаў вырашыла завезьці ў дзіцячыя шпіталі мэдыцыну, якую яны прывезьлі з Амэрыкі. А мэдыцыны было нямала: 30 вялікіх пачак.

Разам зь Сяргеем Карніловічам паехалі ўДокшыцы Алена, Натальля й Анатоль Лукьянчыкі, Марыя Несьцер, Вольга Лука-

шэвіч, Ева Яраховіч, Лідзія, Андрэй і Міхась Мітраховічы. У Докшыцах ужо ведалі пра прыезд гасьцей і чакалі на іх. Каля хаты Ганны Кішэні кліўлендцаў з хлебам-сольлю сустрэла Яўгенія Карніловіч. Пэўна, што хлебам ды сольлю прыняцьцё не закончылася. Гасьцей запрасілі ў хату, дзе ўжо зь вечара рыхтавалі для беларусаў Амэрыкі мясцовыя дэлікатэсы. Пасьля прыняцьця паехалі ў Докшыцкі раённы шпіталь, добрыя ўзаемаадносіны зь якім былі ўстаноўлены мінулым летам. Перадалі 7 пачак, у якіх былі аднаразовыя шпрыцы, гумовыя пяльчаткі, вітаміны, абязбольваючыя прэпараты і... вата, за якую атрымалі



*Яўгенія Карніловіч сустракае гасьцей*



*Сяргей Карніловіч разам з пляменьнікамі*

асобую падзяку, бо, як сказаў галоўны доктар шпіталя сп. Буцько раён штомесячна атрымоўвае ваты, якая ў параўнаньні з патрэбамі у ёй, проста кропля ў моры. (Між іншым, сытуацыя з ватай і іншым «хадавымі» мэдычнымі прэпаратамі была аналягічнай на Гомельшчыне і на Берасьцейшчыне, куды пазьней была завезена мэдыцына). «Падумайце,—казаў доктар Буцько, — якую мэдычную дапамогу мы можам аказаць хвораму, калі не хапае самых элементарных рэчаў».

Пасьля перадачы мэдыцыны ў Докшыцкі раённы шпіталь і размоваў з мэдычным пэрсаналам, кліўлендцы заехалі ў в. Барсукі



*У Докшыцах, перад ад'ездам у раённы шпіталь*

да старшыні калгаса Фёдара Маскалёнка Фэдзя запрасіў кліўлендцаў у сад.

Маліна, чырвоная і белая парэчка, агрэст,—кусты ажно ламіліся ад ягад. Зьбі-



*У садзе Федзі Маскалёнка*

раць з куста ягады, якія так і прасіліся ў рот, было ўжо крышку экзатычна для іх. Усё гэта нагадвала ў нечым бестурботнае дзяцінства, бацькоўскі альбо дзядоўскі сад, у якім калісьці расьлі вось такія-ж смачныя, прыгожыя, а галоўнае зь нейкім «натуральным», вельмі прыемным водарам ягады. (Тыя-ж самыя ягады ў амэрыканскіх «супэрмаркетах» зусім ня маюць паху і смакуюць інакш, чым на Бацькаўшчыне). Тады яны, дзеці, чакалі гэтага чароўнага месяца ліпеня, калі можна было удосталь паесьці фруктаў і агародніны...І вось зноў ліпень, зноў пасьпелі ягады ў садзе. Іх можна есьці колькі хочаш...Шкада, што нельга вярнуць іх дзяцінства і тых шчасьлівых га-



У сям'і Кулікоўскіх радасная падзея: прыйшлі пачкі з Амэрыкі

доў жыцьця на Бацькаўшчыне.

Пасьля экскурсіі па саду і успамінаў, навеяных зьбіраньньем ліпеньскіх ягад, кліўлендцы зноў паехалі ў Менск. А там, падзяліўшы застаўшуюся мэдыцыну на роўныя часткі, павезьлі яе ў розныя куткі Беларусі. Адну часьць Сяргей Карніловіч завез на Гомельшчыну. Другую—спадарства Лукьянчыкі і Марыя Несьцер завезьлі ў Бярэсьце. А трэцюю частку Вольга Лукашэвіч і Эва Яраховіч адвезьлі ў Лунінец.

Акрамя мэдыцыны кліўлендцы прывезьлі на Бацькаўшчыну пачкі з дзіцячай адзежай для сірацінцаў. Гэта ня першая дапамога для дзяцей-сірат. Ужо некалькі гадоў зьбірае і пасылае ў Беларусь для сірацінцаў пачкі зь дзіцячым адзеньнем Сяргей Карніловіч. У мінулым годзе ён пераслаў 12 пачак, а прыйшло па назначэньню ўсяго 6. Гэтым разам Сяргей Карніловіч передаў прывезеныя кліўлендзкай групай пачкі старшыні Дзіцячага фонду духоўнага й інтэлектуальнага Адраджэньня «Сакавік» Марыі Міцкевіч. Дзьве зь іх яна передала ў сям'ю настаўніцы Людмілы Кулікоўскай, якая ўзяла на выхаваньне зь дзіцячага сірацінца 11 дзяцей: малышоў Таню, Дзіму, Таню і старэйшых Антона, Алёшу, Галю, Сьвету, Тасю, Аўгена, Лену. Колькі радасьці было дзецям ад атрыманых абновак і пачастункаў уявіць ня цяжка.

Наогул, гуманітарная дапамога аказвалася кліўлендцамі неаднойчы. Напрыклад, гэтым летам у складзе дэлегацыі сьвятара Пола Мура езьдзілі з грузамі гуманітарнай дапамогі ў Беларусь Алесь Міраеўскі і Янка Раковіч. Але аб гэтым чытайце ў наступным нумары часопіса.



У сям'і Кулікоўскай ідзе прымерка новага адзеньня з Амэрыкі

# Заява Беларускага ПЭН—цэнтра

Дзеля выкананьня XII Рэзалюцыі Асамблеі дэлегатаў Міжнароднага ПЭН-клюба «Міжнародная салідарнасьць з ахвярамі аварыі на Чаробыльскй атамнай электрастанцыі», унесенай Беларускім ПЭН-цэнтрам (26 красавіка 1991 г. Парыж), і беручы пад увагу ліст Генеральнага сакратара Міжнароднага ПЭН-клуба Аляксандра Блока былому Прэзыдэнту СССР Міхаілу Гарбачову ад 2 мая 1991 г. які адлюстроўвае адносіны Асабмлеі да трагедыі, а таксама да замоўчваньня праўды пра яе, Беларускі ПЭН-цэнтр працягвае трымаць чарнобыльскую праблему ў полі зроку. Сябры Беларускага ПЭН—цэнтра ўважліва азнаёміліся з апублікаваным дакладам Міжнароднага кансультатыўнага камітэту МАГАТЭ «Радыёлягічныя вынікі аварыі на Чарнобыльскай АЭС у СССР: ацэнка ахоўных мер», які з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі атрымаў даволі шырокую вядомасьць у сьвеце.

Прызнаючы карыснасьць такога праэкта МАГАТЭ, да падрыхотоўкі якога былі прыцягнуты вядомыя эксперты, Беларускі ПЭН—цэнтр бярэ на сябе сьмеласьць не згадзіцца з шэрагам яго надта спрэчных высноў і заключэньняў, таму што яны ўлічваюць далёка ня ўсе дадзеныя, а часта і супярэчаць рэальным фактам трагічнай рэчаіснасьці ў Беларусі. Гэта тычыцца, у прыватнасьці, беспадстаўна аптымістычных высноваў даклада, калі гаворка ідзе пра ўзьдзеяньне радыяцыі на здароўе людзей, і ацэнкі варыянтаў канцэпцыі пражываньня на забруджаных тэрыторыях. Даклад, на жаль, таксама абыходзіць маўчаньнем многія рэальныя бакі праблемы, якія існуюць у Беларусі.

У гэтай сувязі зьвяртае на сябе ўвагу той івадавочны фактар, што слабасьць сваёй пазыцыі, неперакана ўчасьць сваіх вывадаў усьведамляюць і самі аўтары даклада, калі яны прызнаюць у ім, што «высновы і рэкамендацыі абумоўлены рамкамі і абмежаваньнямі задумы, пра што «ў ідэальным выпадку групы экспертаў, якія працавалі над ажыцьцяўленьнем праэкта, павінны былі мець час і рэсурсы, дастатковыя для дакладнага вывучэньні незалежнай праверкі ўсёй даступнай ім інфармацыі, а таксама для правядзеньня больш шырокіх незалежных аналізаў, што нібыта «нерэальна было разлічваць на магчымасьць правядзеньня такіх усеабдымных работ, ды яны і не былі-б цалком апраўданыя.»

Па сутнасьці, даклад МАГАТЭ адлюстроўвае перш за ўсё пазыцыю ядзернай прамысловасьці, непасрэдна зацікаўленай у вытворчасьці, устаноўцы і эксплуатацыі ўсё новых і новых атамных рэактатраў, і такім чынам,ва ўтойваньні сапраўдных маштабаў чарнобыльскай трагедыі. Складваецца ўражаньне,што экспертыза МАГАТЭ адлюстроўвае мэтанакіраваную палітыку гэтай арганізацыі,яе накіраванасьць на ўсялякае разьвіцьцё атамнай энергетыкі, яе стратэгію барацьбы з узрастаючым недаверам ў сьвеце да гэтага віду энергетыкі. Таму многія аўтарытэтныя вучоныя ставяць пад сумненьні незалежнасьць экспертызы і ацэнка МАГАТЭ ў адносінах да чарнобыльскай катастрофы.

У сувязі з гэтым Беларускі ПЭН—цэнтр заклікае ўсе нацыянальныя ПЭН—цэнтры:

Адшукаць магчымасьці, каб апублікаваць у прэсе вышэй памянёную Рэзалюцыю

Парыжскай Асамблеі дэлетагатаў ліст А.Блока Міхаілу Гарбачову ад 2 мая 1991 г., а таксама дадзеную Заяву, і пасылаць копіі публікацый Беларускаму ПЭН—цэнтра.

Лічыць, што праведзеную МАГАТЭ экспертызу ацэнкі вынікаў чарнобыльскай катастрофы для жыцьця і здароўя людзей у Беларусі й іншых пацярпеўшых рэгіёнаў СССР нельга прызнаць канчатковай таму неабходна працаваць далей у гэтым пляне на нацыянальным і міжнародным узроўнях. У праватнасьці, мэтазгодна правесьці падатковыя паглыбленыя дасьледаваньні яшчэ неахопленых МАГАТЭ асьпектаў чарнобыльскай праблематыкі з прыцягненьнем спецыялістаў Беларусі, Украіны, Расеі, міжнародных арганізацыяў, аўтарытэтных грамадзкіх рухаў, у тым ліку Міжнароднага ПЭН—цэнтра.

Прасіць міжнародны рух умяшацца, ажыць цявіць сапраўды незалежную экспертызу з дапамогай вышэй названых арганізацыяў.

Прасіць салідарнасьць з заклікам Генеральнага сакратара ААН аб шчодрай і даўгачаснай дапамозе ахвярам катастрофы ў сувязі з трагедыяй на Чарнобыльскай АЭС.

Давесьці да ведама грамадзкасьці, што Беларускі ПЭН—цэнтр прымае ахвяраваньні ад розных арганізацыяў і прыватных асоб, якія жадаюць дапамагчы тым, хто пацярпеў ад аварыі, пры гэтым Беларускі ПЭН—цэнтр гарантуе эфэктыўнае выкарыстаньне сродкаў і поўную інфармацыю пра канкрэтнае прызначэньне кожнага ахвяраваньня.



*1 сакавіка 1993 г. у Менску паміж дзіцячым шпіталем №4, Рэспубліканскім інстытутам мэдычнай радыяцыі і дзіцячым шпіталем г.Пітсбургу падпісаны спэцыяльная праграма аб супрацоўніцтве й дапамозе. Згодна ёй амэрыканскі ўрад выдзеліў для Беларусі 260 тысяч даляраў. Адзін з пунктаў праграмы прадугледжвае прыезд беларускіх дактароў ў дзіцячы шпіталь г. Пітсбурга. На здымку: гутаркі ў час прыезду беларускіх дактароў у Пітсбург. Зьлева направа: прафэсар пэдыятрыі д-р Томас Фолі (другі зьлева), д-р Марыя Дэмковіч, рэктар Беларускага мэдычнага інстытута Аляксей Кубарка*

# З ГУКІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

## Прывітаньне

Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь 7 ліпеня 1993 г. прызначыў Сяргея Мартынава рэпрэзэнтаваць Рэспубліку Беларусь у Злучаных Штатах Амэрыкі ў якасьці амбасадара. Старшыня Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч даслаў паслу Сяргею Мартынаву Вярыцельную грамату для перадчы яе Прэзыдэнту Злучаных Штатаў Амэрыкі Білу Клінтану.

Пасол Сяргей Мартынаў вярнуўся зь Менску ў Вашынгтон 13 верасьня, а 20 верасьня ён уручыў копію Вярыцельнай граматы намесьніку дзяржсакратара ЗША. Таксама пасол Сяргей Мартынаў будзе прыняты Прэзыдэнтам ЗША і падчас гэтай сустрэчы ўручыць арыгінал Вярыцельнай граматы Білу Клінтану.

Рэдакцыя часопісу «Полацак» шчыра вітае пасла Сяргея Мартынава і сп-ю Маргарыту Мартынаву і зычыць ім здароўя, посьпехаў у працы. Жадаем Вам, шаноўны пасол Сяргей Мартынаў, годна рэпрэзэнтаваць Рэспубліку Беларусь у Амэрыцы.

# З ЖЫЦЬЦЯ ЭМІГРАЦЫІ

## Падзяка

Калі мы пачалі выдаваць часопіс «Полацак», то фатаграфіі адбівалі на ксэраксе, і яны не былі выразнымі. Прыходзілася для некаторых фатаграфіяў замаўляць «клішэ», за якія плацілі ад 12 да 20 даляраў за здымак, у залежнасьці ад памеру. У мінулым годзе М.Белямук купіў скенэр для фотаздымкаў, якасьць іх палепшылася, але усё роўна не задавальняла нас, бо тэхнічныя мажлівасьці прынтэру былі замалыя.

У жніўні гэтага году мы зьвярнуліся да некаторых нашых падпісчыкаў з просьбай фінансава дапамагчы купіць прынтэр з больш высокімі тэхнічмымі мажлівасьцямі (600 Дпі). Некаторыя асобы адгукнуліся. Мы шчыра ўдзячныя за іхнюю дапамогу, бо яна ёсьць ня толькі фінансавая, але і маральная.

Мы складаем вялікую падзяку Беларускаму Кангрэсоваму Камітэту за $300.00. Мы ўдзячныя др-у У.Набагезу за $500, др-у М.Рэпкаву—Смаршчку за $300, сп-ву Л. і У.Бры леўскім за $300, сп-ву Л. і Р. Завістовічам за $150, др-у Я.Запрудніку за $100, сп-ні Р.Галяк за $100, сп. К. Калошу за $100, сп. М.Белямуку за $100, сп. В.Даніловічу $50, сп. К.Ворт (Вайцяхоўскаму) за $50, др-у М.Дэмковіч за $ 50, сп. М.Грэбеню за $50, сп. Я. Юхнаўцу за $50, сп. В.Балтрушэвічу за $30, сп. В.Кажану за $ 25, сп. С. Карніловічу за $25.

У гэтым нумары фатаграфіі адбіты на новым прынтэры, за які мы заплацілі $ 2339.

## «Я заўсёды заяўляў пра Беларусь...»

28 жніўня амбасадару Беларусі пры Аб'еднаных нацыях Генадзю Бураўкіну споўнілася 57 гадоў, а 29 жніўня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці адбылася сустрэча з шаноўным гасьцём з Нью Ёрку. Генадзь Бураўкін, закончыўшы ў гэтым годзе свой тэрмін працы ў Асамблеі Аб'еднаных нацыяў вяртаецца ў Беларусь. З гэтай нагоды пасьля сьв. Літургіі ў царкоўнай залі адбылося прыняцьцё для Генадзя Бураўкіна й ягонай жонкі сп. Юліі Бураўкінай.

Прыняцьцё адкрыў старшыня Кліўлендзкага аддзелу БАЗА Янка Ханенка. Ён павіншаваў Генадзія Бураўкіна зь днём народзінаў і падарыў букет чырвоных ружаў. Хор і ўсе прысутныя прасьпявалі «Многае лета».

Сп. Генадзь Бураўкін прыехаў ня толькі, каб разьвітацца з кліўлендцамі. Паводка ў Беларусі, якая затапіла тэрыторыю многіх заходніх раёнаў Бацькаўшчыны, прымусіў яго, амбасадара Беларусі, зьвярнуцца да грамадзтва з заклікам аб дапамозе . (гл.бач.63)

Пасьля шчырай гутаркі Генадзь Бураўкін адказаў на пастаўленыя пытаньні. Кліўлендцаў цікавіла, чаму і як адбыўся выбух на плошчы Незалежнасьці? Калі будуць пушчаны ў ход беларускія талеры? Якая эканамічная сытуацыя зараз ў Беларусі? і г.д.

З прыемнасьцю ўсе ўспрынялі навіну, што ў гэтым годзе ў вышыйшых навучальных ўстановах былі ўступныя экзамены па беларускай мове і літаратуры. Генадзь Бураўкін больш падрабязна расказаў пра візыт старшыні Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Станіслава Шушкевіча ў ЗША, першы афіцыйны візыт, дзе перамовы вяліся на раўнапраўных асновах, і сустрэча кіраўнікоў двух краінаў працягвалася на 30 хвілінаў больш, чым было заплянавана па афіцыйнаму пратаколу. На завяршэньне гутаркі Анатоль Лукьянчык папрасіў Генадзія Бураўкіна ацаніць сваю працу як шэфа беларускай місыі пры Асамблеі Аб'еднаных нацыяў. Генадзь Бураўкін сказаў: «Дзе-б я ні быў, я заўсёды заяўляў пра Беларусь і інтэлігентна адстайваў яе інтарэсы»

## ХХУ Кангрэс БАЗА

адбыўся 4 верасьня ў Нью Брансьвіку, штат Нью Джэрсі. Кліўледзкая дэлегацыя на Кангрэсе была прадстаўлена Янкам Ханенкам (старышыня Кліўлендзкага аддзелу БАЗА), Кастусём Каляшам, Марыяй Патапенка, Тацьцянай Кананчук (дэлегаты). Кангрэс вітаў а.В.Андрэюк, ад імя Уладыкі Мікалая ён зачытаў благаславенства Кангрэсу.

З справаздачамі аб двухгадовай працы выступілі Антон Шукелойц, старшыня БАЗА, старшыні дэлегацыяў: Нью-Ёркскага—Аляксандр Міцкевіч, Кліўлендзкага—Янка Ханенка, Нью-Джэрскага—Янка Азарка, Дэтройцкага—Вера Артон, Каліфарнійскага—Язэп Арцюх.

Спрэчкі разгарнуліся калі прыступілі да выбараў старшыні БАЗА. Антон Шукелойц, які узначальвае БАЗА ужо шмат гадоў, спадзяваўся, што на гэты раз ён складзе свае паўнамоцтвы новаму старшыні. Але усе прапанаваныя кандыдаты, спаслаўшыся на розныя прычыны, адмовіліся прыняць старшынства. Пасьля доўгіх дыскусыяў Антон Шукелойц пагадзіўся старшынстваваць да наступных перавыбараў.




# REPUBLIC OF BELARUS

PERMANENT MISSION TO THE UNITED NATIONS

136 EAST 67th STREET NEW YORK, N Y 10021

(212) 535-3420


No 639/PR
23 August 1993

PRESS RELEASE

**FLOOD DISASTER IN BELARUS**

In the last week of July the southern part of the Republic of Belarus received a three-months amount of rain in the matter of a few days. The height of the most of the rivers of Belarusian Palesye lowlands rose by more than 7 feet.

The Brest and Homiel Regions of Belarus were affected most.

The results of the disastrous flood which created an emergency on the substantial part of the territory of Belarus are as follows,

* 40 thousand persons affected
* More than 10 thousand houses flooded
* More than 660 thousand acres of arable land under water
* More than 200 km of roads, 10 bridges, 150 sections of power lines damaged
* 461 settlements without electricity
* The first estimates of the direct material damage caused by the disaster amount to $ 100 million. The figure is expected to increase when environmental damage and the cost of normalising the sanitary-epidemidogical situation in the affected areas are taken into account.

The Government of the Republic of Belarus issued an appeal for international assistance by medicines and food. Priority needs are food and fodder grain, broad-spectrum antibiotics, antibacterial agents, gastro-enteric, anti-inflammatory and antipyretic drugs, disinfectants and veterinary preparations.

Donations in hard currency to help to deal with the after-effects of the flood can be made to the State Currency Fund of the Ministry of Finance of the Republic of Belarus, account No 265070842 in the Minsk branch of Zneshekanombank, code No 226.

Г.М.Бураўкін

# Упершыню

4 верасьня гасьцямі Кліўленда былі эканамічны саветнік Пасольства Рэспублікі Беларусь у Вашынгтоне Уладзімір Ганчаронак з жонкай сп.Марыяй і другі сакратар Пасольства Аляксандр Астроўскі з жонкай сп. Нінай і дзяцьмі Ірынай і Галяй. Пасьля сьв. Літургіі ў залі царквы Жыровіцкае Божае Маці для шаноўных гасьцей было зладжана прыняцьцё, а пазьней адбылася неафіцыйная гутарка вашынгтонцаў з кліўлендцамі і гасьцямі з Чыкага: сп-вам Каленікаў, Мікалаем Латушкіным, якія спэцыяльна прыехалі ў Кліўленд на гэтую сустрэчу.

—Усяго год працуе Беларускае Пасольства ў Вашынгтоне. У красавіку 1993 г. мы пераехалі ў новы будынак, які наш урад купіў за 1 даляр. Трэба сказаць, што амэрыканскі урад заплаціў за будынак амэрыканскага пасольства ў Менску 1 рубель.—падкрэсьліў Уладзімір Ганчаронак—Беларускае пасольства ў Вашынгтоне невялікае, усяго тры асобы працуе ў ім: пасол—Сяргей Мартынаў, другі сакратар—Аляксандр Астроўскі, і я, эканамічны саветнік.

Сп. Уладзімір Ганчаронак спыніўся на эканамічных праблемах, расказаў аб эканамічным становішчы ў Беларусі. Таксама ён закрануў пытаньні сумеснага беларуска-амэрыканскага бізьнесу.

Сп. Аляксандр Астроўскі пазнаёміў кліўлендцаў з працэсам атрыманьня візаў, паведаміў, што для жыхароў Беларусі вядзецца падрыхтоўка па выпуску агульнаграмадзянскага пашпарта.

— У мінулым годзе за першае паўгодзьдзе Беларускім пасольствам было выдадзена адна тысяча візаў. У гэтым годзе за гэты-ж самы пэрыяд—ужо шэсьць тысяч. Усё гэта гаворыць аб тым, што расьце цікавасьць да Беларусі ня толькі з боку беларусаў, якія пражываюць у Амэрыцы, але і з боку амэрыканцаў. Беларусь робіць крокі, каб далучыцца да сусьветай супольнасьці. Асноўная задача —пазнаёміць амэрыканцаў з краінай Беларусь. У гэтым ёсьць пачэсны абавязак Беларускага Пасольства.

Госьці адказалі на пытаньні кліўлендцаў. На заканчэньне сустрэчы сябра царкоўнай рады царквы сьв. Юрыя ў Чыкага Мікалай Латушкін запрасіў гасьцей з Вашынгтона і кліўлендцаў на сьвяткаваньне 35-годзьдзя парафіі сьв. Юрыя, якое адбудзецца 7 лістапада.

# Рукапалажэньне

У нязелю 12 верасьня 1993 г. архіяпіскап Мікалай рукапалажыў Міраслава Вайцюка ў сан ярэя. Айцец М.Вайцюк прыехаў у Канаду і зьвярнуўся да Уладыкі Мікалая, каб той прыняў яго ў юрысдыкцыю БАПЦ. На просьбу архіяпіскапа Мікалая, уладыка Сава, архіяпіскап Беластоцкі і Гданскі, прыслаў айцу Міраславу Вайцюку адпускную грамату.

Айцец Міраслаў Вайцюк нарадзіўся 28 чэрвеня 1965 году, у Беластоку, у праваслаўнай сям'і Аляксандра і Ніны з дому Масальска. Айцец Міраслаў закончыў Варшаўскую Вышэйшую Праваслаўную Духоўную Сэмінарыю ў Польшчы. Жанаты з Бажэнай, і яны маюць дзяўчынку Эмілю. Айцец Міраслаў Вайцюк назначаны на парафію сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта як памочнік кіраўнічаму парафіяй архіяпіскапу Мікалаю.



*На здымку: Віцебск, рэшткі ўмацаваньняў Ніжняга замку, XIУ—XУII ст. Міхась Ткачоў (пасярэдзіне). Зьлева ад яго Лявон Калядзінскі—археоляг, справа ад яго Міхась Аляксейчык*

*Здымак зроблены ў ліпені 1983 г. Друкуецца ўпершыню.*

*Архіў Калядзінскага.*



*Благавешчанская царква Супрасьлеўскага манастыра*